Сяргей

# ДАВІДОВІЧ

*Вершы*
*Паэмы*

Том 11

Мінск
Выдавец Зміцер Колас
2019

УДК 821.161.3-821
ББК 84(4Беи)
Д13

Рэдагаванне і малюнкі аўтара

**Давідовіч, С. Ф.**
Д13 Збор твораў. Т. 11. Вершы. Паэмы. / Сяргей Давідовіч. — Мінск : Зміцер Колас, 2019.— 452 с., іл.

ISBN 978-985-23-0051-3.

У адзінаццаты том збора твораў Сяргея Давідовіча ўвайшлі, напісаныя ім у 2018–2019 годзе вершы і паэмы.

Як заўсёды, творы цікавыя сваёй псіхалагічнай заглыбленасцю, сюжэтнай вастрынёй і актуальнасцю.

**УДК 821.161.3-821**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-23-0051-3**

## Позна ці рана

Я стаю на зямлі,
Як апошняя веха,
Нібы слуп верставы,
А далей — ні вярсты.
Я мінулых падзей
Непачутае рэха,
А навокал туман
Адзіноцтва густы.

Як няпрошаны госць,
Я стаю і дзіўлюся
Нібы арыенціры
Згубіў блудны сын.
Я аддаў сваё сэрца,
Жыццё Беларусі,
Ўсё да кроплі аддаў,
А чаму я адзін?

Значыць Богам такое
Мне наканавана —
Хто ж калі адцураўся
Ад лёсу свайго?
Пэўна, я у жыцці
Паявіўся зарана,
А, магчыма, запозна
Прыйшоў у яго.

# Трыяда

Калі адлік свой спыніць маё сэрца
І мне ў магілу час свой  кол уб'е,
Жыццё маё у вершах застанецца,
Яны — душапрыказчыкі мае.

Ім самастойна, без мяне, прынамсі,
Далей праз час і цяжкасці ісці.
І чытачам, магчыма, я падамся
Цікавым больш, чым калісь, пры жыцці.

Магчыма, блізкім больш і зразумелым,
Бо паміж намі — вечнасці сцяна.
І хоць душа развітваецца з целам,
Не развітаецца з паэзіяй яна.

Здаўна, з-за векавога далягляду,
Жывое слова й праз вякі гучыць,
Бо з намі неўміручая трыяда —
Паэзія, душа і чытачы.

## Наша спадчына

Нам, пакаленню сумленнаму,
Ваеннаму, пасляваеннаму,
Дзякуй сказаць не ляніцеся,
Мы адыходзім — схіліцеся.

Мы, Беларусі адданыя,
Не на грашах ўзгадаваныя,
Святадушою — сакральныя,
Мы — дабрынёй унікальныя.

Нас не хапаць будзе гэтаму,
Жорсткаму, інтэрнэтнаму,
Свету, шмат зла прытуліўшаму,
Арыенціры згубіўшаму.

Ўсё, што маглі, намі здзейснена —
Памяць не будзе закрэслена,
Бо недарэмна патрачана
Наша жыццё — наша спадчына.

## А калі...

Як жа пасля смерці
Не хапаць мне будзе,
Сонейка і зорак…
Будзе не хапаць
Вас, каго пакіну,
Дарагія людзі,
Я па ўсім, што зведаў,
Буду сумаваць.

Я па кожнай красцы
Буду сумаваці,
Па расінцы кожнай,
Па лясным «ку-ку»,
Па таму, як тонка
Пахнуць сенажаці,
Па кароўцы божай
І па матыльку.

Па агні ля рэчкі,
З трапяткою вудай,
Дзе зару палошча
Соннай водзі гладзь.
Па парошы снежнай
Сумаваць я буду,
Дожджыка грыбнога
Буду ўспамінаць.

Без птушыных песняў
Востры сум адчую —
Эх, як спеў салоўкі
Хваляваў мне кроў.
Без каточкаў любых

Дужа засумую,
Без жывёлін хатніх,
Без лясных звяроў.

Мілыя бярозы!
Бор мой задуменны!
Залатыя нівы,
Траўныя лугі,
Ў квецені вясенняй
Сад мой белапенны,—
Родная старонка!
Край мой дарагі!

Думку напаследак,
Як гару, нясу я —
Жыў я,
Мітусіўся,
Марыў — а калі…
А калі па мне
Ніхто не засумуе,
Значыцца нікчэмна
Жыў я на зямлі.

## Гайда, хлопцы!

Гайда, хлопцы, да дзяўчат,
Ў адзіноце кісла ім.
Нас тут многа,
Іх там шмат,
Крыху іх паціскаем.

Паспрыяем языкам,
Памяньціць ім прыйдзецца.
Дадзім волю і рукам,
Дзеўкі не пакрыўдзяцца.

Эх, каб ведалі мы іх
Думкі патаемныя,
Мы бы ночанькі для ўсіх
Ладзілі прыемныя.

Зробім, хлопцы, ход канём
На бліны на цешчыны.
Грудзі ўперад, рызыкнём —
Сустракайце, дзеўчыны!

## Слова веры

Я падсудны прад вамі,
чытачы, мае суддзі,
Я кранаю ўсіх лёсы
праўдзівасцю слоў.
Памыляецца кожны,
мы — усе з вамі людзі,
А паэт на памылку
не мае правоў.

Праўда горкай бывае,
ад праўды збавенне
Прайдзісвет выбірае
і хітры наш век.
Ўсё бывае — і хтось
адступіў ад сумлення,
А паэт без сумлення —
ці ж гэта паэт?

Колькі выклікаў ёсць
дваццаць першага века,
Пераможа дабро —
ў гэта верыць не ўсе.
Шчыра верыць паэт
у дабро, ў чалавека,
Слова веры
Да кожнага сэрца нясе.

## Два прыклады

Да творчасці яго я быў паломнікам,
Як да жывой вады душой прынік.
Ён у душы маёй
Узнёсся помнікам,
Як чалавек,
Пісьменнік,
Франтавік.

За мір, за шчасце
Заплаціў ён дорага —
Ад смерці сонца закрываў сабой,
Змагаўся маладым
З нямецкім ворагам,
Затым у творах свой працягваў бой.

Нажыў я рану ў сэрцы невылечную,
Калі пачуў праз радыёэфір:
Ён дажываць паехаў на нямеччыну,
Ён, мой ужо, на жаль,
Былы кумір.

І ён паехаў,
Ісціну сканфузіўшы,
Даў пад дыхалку рэйтынгу свайму.
І помнік рухнуў,
Мне душу забрудзіўшы,
Ў душы пытанне вырасла: — Чаму!

Ён — і да немцаў!
Штосьці непатрэбнае.
Зусім несумяшчальнае тут штось.
І кропка ў біяграфіі ганебная,
І гэта факт —
Што маем, тое ёсць.

*

Вось вёсачка мая пасляваенная,
Ледзь ачуняла, спаленай была.
Жыве у ёй жанчына непісьменная,
Ў вайну яна дзяўчынкаю была.

Яе жыццё сваёю чорнай меткаю
Адзначыла вайна й нямецкі кат —
Тады прад ёй, дзяўчынкай-малалеткаю,
І бацька расстраляны быў, і брат.

Семдзесят год — адлегласць велізарная,
Яна ўсё ж помніць страшную пару.
Й пасылку не ўзяла гуманітарную —
Чым браць у немцаў штосьці —
Лепш памру.

Яна жыццём душу не абязболіла,
І памяць не адправіла на злом.
Святая памяць ёй бы не дазволіла
Лізаць талеркі за чужым сталом.

## Што падкажаш мне, Ісусе?

Свет складаны, свет вялікі —
Падалося мне ці не,
Быццам бы Ісус паклікаў
У бязмежны свет мяне.

Да кута́, да абразоў я,
Прад Ісусам стаў, прыціх.
На мяне глядзіць з любоўю
Моўчкі ён, як і на ўсіх.

— Што падкажаш мне, Ісусе?..—
Зноў аднекуль зык ідзе:
— Лепш Радзімы-Беларусі
Ты не знойдзеш анідзе.

Тут твой блізкі і далёкі
Свет сяброў, калег, радні.
Тут твайго жыцця вытокі —
Святы, страты, карані.

Я крыжом сябе абхры́сціў
І паслаў на кут паклон.
І з бязвыйсця знойдзе выйсце
Бог адзіны — толькі ён.

## Мне бы...

Мне бы ўсіх вас абняць,
дарагія салдаты,
Вас, пакуль што жывых,
паміж жорсткіх баёў.
Мне бы ўсіх вас падняць,
хто ляжыць ля гарматаў
Ці ў акопах, ці ў полі,
канец свой знайшоў.

Мне ўпрасіцца б у вашу
сям’ю франтавую,
Хоць на колькі баёў,
на кароткі хоць час.
Мне бы з вамі адчайна
пайсці ў штыкавую,
Можа б смерць абмінула
хоць некага з вас.

Мне бы з вамі ў разведку
пайсці на заданне,
Мне б адчуць перамогі
хвалюючы міг…
Колькі б я ні глядзеў
пра вайну на экране,
Столькі сэрца імкнецца
быць там, між сваіх.

# Песня лебядзіная

У зямлю бацькоўскую
лёс жыцця уворваны.
Тут сцяжынкі росныя
сплёў я ў каляю.
Вёскай я народжаны,
Вёскай я адораны,
Вёсцы й завяршоўваю
я душу сваю.

Мроямі юнацкімі
прагнуў за аблокі я,
Верыў я, што марамі
сэрца наталю.
А зямля ўшаноўвала карані глыбокія,
Моцна ўрос якімі я
ў родную зямлю.

Вёска мая мілая!
На зямлі адзіная,
На тваёй я шчырасці
шчыра жыў і рос.
Ты мая балючая
песня лебядзіная,
Тут я не саромлюся
пры сустрэчы слёз.

## Жанчынкі мілыя...

Жанчынкі мілыя
каля майго узросту,
Святой мінуўшчыны
равесніцы мае,
Былую прыгажосць —
ой захаваць не проста,
Але й не адабраць
гадам у вас яе.

І хоць вачэй блакіт
соль слёз былых туманіць,
І на румянец шчок
стынь восені лягла,
Але усмешкі ўсё ж
цяплом душэўным вабяць,
А ў сэрцах яшчэ больш
пяшчоты і цяпла.

Нічога, што на вас
няма фасонаў модных,
Галоўны скарб жыцця —
павагу нажылі.
Праз цяжкасці жыцця,
праз лёс прайшлі вы годна —
Схіляюся прад вамі
Да зямлі!

## Каб не ты

Нібыта задумлівасць
месяца срэбная,
Асела з нябёс
на маю галаву.
На скроні лёг снег —
о зіма непатрэбная,
Не дыхай мне ў твар,
я пакуль што жыву.

Раса, як сляза,
па шчацэ коціць тоненька,
А, можа, сляза,
як раса коціць з воч.
Спыніся, прашу,
не заплюшчвайся, сонейка,
Я спаць не хачу,
не навальвайся, ноч.

Хоць розум гняце
безвыходнасць бяздонная,
Я ўсё-ткі будую
ў дзень новы масты.
Падзяка, душа,
не паўзросту натхнёная,
Магчыма, мяне не было б,
Каб не ты.

## Сустрэча

Адзелянелі, адгулі
Лясы і дождж павіс сцяной.
Зляцеў лісточак да зямлі
Прыгожы — чырвань з жаўцізной,
Быў, нібы красачка вясной.

З асіны той лісточак быў,
Вісеў даўжэй братоў сваіх.
Пад сумны восеньскі матыў
Ён спланаваў да ног маіх.

Падняў я летуна свайго,
Ім любаваўся на хаду.
І вырашыў, што я яго
Прыйду і ў кніжку пакладу.

Ён на зямлі — часовы госць,
Праз месяц згніў бы на траве.
Я ж захаваю прыгажосць,
Няхай другім жыццём жыве.

Так і зрабіў. І даў нырца
Ў жыццё — мой век быў малады.
І на лісточка-малайца
Зусім забыўся — на гады.

Падзей і часу карагод
Круціў мяне, як той лісток,
І вось ажно праз паўста год
Раскрыў я кніжку — й мой ты Бог!

Я зноў! Я зноў сустрэўся з ім!
Нібыта з маладым сабой.
Ён выклікаў «жыццём» сваім
Усхваляванасці прыбой.

Я выбег з хаты — хмары спрэс,
І, як тады — дажджу сцяна.
Імчаў я у знаёмы лес,
Да той асіны — як яна?

Лес новы «узняўся на крыло»,
У новы час свой гімн пяе…
На жаль асіны не было,
Лісточак перажыў яе.

## Вам бы на баль

Маладыя жанкі,
Прыгажуні-дзяўчаты,
І мужчыны, і хлопцы —
як адзін, як адна,
Хтосьці з фермы ідзе,
нехта з поля дахаты,
Спрацаваныя ўшчэнт
ад цямна да цямна.

Кожны з іх —
беспрасветнае працы палонны,
Сілы ўсе, маладосць,
аддаюць толькі ёй.
Ні табе выхадных,
ні палёгкі сезоннай,
Праца — хата… А дома
шмат працы сваёй.

З часам, хоць малады,
а прыгорблены плечы,
І хада пацяжэла,
«падціснула хвост».
І мяняецца выгляд
дзявоча-хлапечы,
Толькі ў пашпарце іхні
дакладны ўзрост.

Так было у калгасах,
і так засталося,
Пэўна, так яно будзе
й далей, і заўжды.

У сялянскім жыцці,
ў гаспадарлівым лёсе —
Праца, пот, мазалі,
а без іх нікуды.

Важна ўбачыць
За працай любой чалавека,
Ён — заўсёды жыцця рухавік,
Толькі ён.
Вёска наша —
харчовая наша бяспека,
Вёска — наша карміцелька,
ёй наш паклон.

Вы, мужчыны й жанкі,
дзецюкі і дзяўчаты,
Ў вёсцы вы — без выгодаў цывільных,
На жаль.
Ў гонар ваш — урачыстасці
й даты, і святы…
Вам бы фракі і шпількі
ды з фермы на баль.

## Ах, як добра...

Ах, як добра, што на лес
Рос я гледзячы.
На страху жыцця б ці ўзлез,
Дома седзячы?

Ці убачыў бы усход,
Сцежку Млечную,
Каб сядзеў, нібыта кот,
Па-за печкаю?

Ці круціўся б у віры
Жыцця здольнага?
Ці патрапіў бы ў сябры
Ветру вольнаму?

Ці вядомы быў бы я
Ўсім бяздомнікам?
Ці была б душа мая
Гору помнікам?

## Ды будзе так!

Ўсё меней
Сэрца радуе сусветнасць,
І ў памяці —
Былога блякне сінь.
І толькі ўсё хутчэй
Імчыць у вечнасць
Жыцця майго,
Знікаючага плынь.

Мой час мінулы
Ледзь ахопіць вока,
Час, поўны светлай радасці, тугі.
О як адзін
Ад аднаго далёка,
Сучаснага й былога
Берагі.

А будучыні бераг,
Ён нябачны.
Такі ж нябачны,
Як імклівы час.
Ніхто сказаць не можа
Адназначна —
Далёка ён
Ці хутка прыме нас.

Ў юнацтве мы
Неўтаймавана марым —
Ды што нам час!
Ды што жыцця абшар!
Мы ў маладосці
Часам уладарым,

А ў старасці —
Ён лёсаў уладар.

Ды будзе так!
Нібы святой іконцы,
Памолімся жыццю,
Што ў нас было…
Так ад усходу
Да заходу сонца
Усё жывое
Радуе святло.

## Святая любоў

Туга і час усё бяздонней,
Усё крывавей шлейф зары.
Я выйду ў поле — дзе вы, коні,
Юнацтва мілага сябры?

Я вас выпасваў тут і чысціў,
Па шыі гладзіў, па спіне.
Цяплом адорвалі калісьці
Душэўным — вас я, вы — мяне.

Я быў нязменна вашым другам,
А вы сябрамі мне тады.
І я не карыстаўся пугай,
А толькі словамі заўжды.

О захад сонца, год завея,
І успамінаў вастрыня.
Усё жыццё нашу ў сабе я
Любоў святую да каня.

## Каго напамінае?

Лёс лесу, як людзей,
непрадказальна-розны,
Здаецца, што ўва ўсіх
ёсць на жыццё правы.
У лесе й сонца, й цень,
і тут над кожным кожны,
Няпісаны закон: хто дужы, той жывы.

Каго ад году ў год
мне лес напамінае?
А-а, зразумеў каго!
Кантрасна-розных нас.
Кудлатая рабіна,
як барыня мажная,
Кафтан зялёны і —
каралі напаказ.

У дуба між усіх
спрадвеку форс асобы,
Ён — волат.
Як сказалі б сёння — круцізна.
Свой стан пазалаціла,
а зверху, для аздобы,
Прычоску кучаравіць
зграбная сасна.

Цікава выглядае
Штогод убор яловы,
Яліна ганарыцца
мантыяй сваёй.

Ды елка, нібы баба,
калючая на словы,
І мала хто захоча
паабдымацца з ёй.

Каго ж напамінае
асіна трапяткая,
З дрыготкаю лістотай
і дзённа, і ўначы?
Яна, як жонка, што
ад мужа уцякае,
Уся дрыжыць і ўсё ж
не можа уцячы.

А хто стаіць вунь там?
Чыя раскоша-крона?
І хто так у бакі
раскінуў голле рук?
А-а, гэта браце клён,
такі фасон у клёна,
Ён, нібы да дзяўчат
збіраецца дзяцюк.

Паставім кропку тут.
О не! Ні кропка, коска,
Не ўсіх адкрыла нам
шматлікіх дрэў сцяна,
Бо вунь, нібы дзяўчо,
прыгожая бярозка,
Сукеначка, як цуд,
і стану белізна.

Я запрашаю ў лес,
калі не быў тут хтосьці,
Каб наталіць святой
прыродаю душу,
Адчуць сябе часцінкай
гэтай прыгажосці,
Я сэрцам пра яе,
не словамі пішу.

## Пашану не купіць

Пад сонцам вераснёвым
Працягваецца Спас.
І ураджаем новым
Частуе восень нас.

І вартым, і не вартым,
Усім кладзе ў прыпол.
Тут — працаўнік упарты
Й лайдачны балабол.

Хоць ураджай асенні
І з працай на чале,
Гультай з грашмі ў кішэні
Ўсё мае на стале.

І ў тым яго асоба,
Каб толькі есці й піць.
Пашану хлебароба
За грошы не купіць.

## Перасадка... Вакзал...

Не шкадуйце мяне.
Шкадаванне — не лепшае
з мноства пачуццяў.
Шкадаванне душу не кране,
Прыніжэннем яе схалане,
рэха болю ў душы будзе чуцца.

Не шкадуйце мяне,
не ўздыхайце.
Лепш акрэсліце праведным,
крэмневым словам.
Што было, узгадайце,
Ў лазні памяці
венікам смела хвашчыце яловым.

Вось і ўсё, і фінал…
А, магчыма, чагосьці,
больш значнага
І невядомага толькі пачатак.
Перасадка… вакзал…
Дзе вагон для таго, чый багаж —
на сканчэнні аж восьмы дзясятак?

## Сіроцкі дом

Дзіцячы дом — для дзетак родны самы,
Святло ў сіроцтва горкага акне.
І ўсё-такі ён не заменіць мамы,
Пяшчотна да грудзей не прыхіне.

У марах можна лётаць на Жар-птушках,
Нясуць якія у бацькоўскі дом.
Рэальнасць жа — ў дзетдомаўскіх падушках
Прасуецца слязьмі ў салёны ком.

Падушкі чуюць скаргі ўсе дзіцяці,
І будуць чуць іх да канца жыцця…
Калі дзіця расце ў далонях маці,
Тады толькі завуць дзіця — дзіця.

А тут — дзетдомаўцы…
Гучыць прысудна,
А тут — сіроцкі дом, як ні круці.
І як жа мы такіх дамоў паўсюдна,
Бяздушна напладзілі у жыцці?

## Нябачная рэчка

Чалавек жывы — й душа жывая,
Болі ў ёй глыбінныя свае.
Самы мужны чалавек патрэбу мае
Разнапружыць і раскрыць яе.

Часам сябру,
Часам, блізкім. родным,
Болей — пры магчымасці любой,
Не адмовіць чалавек ніводны,
Каб душой паплакаць прад сабой.

Слёз не бачыў тых ніхто адвеку,
Не адчуў, як боль чужы пячэ
Але ў кожным — кожным чалавеку
Рэчка слёз нябачная цячэ.

## Прыемна чуць

Я адыйшоў ад мітусні трыбуннай
І ціха з невядомасцю жыву,
Затое вэрхал прадказальны тлумны,
Не гвалціць слых,
Не дурыць галаву.

Там кожны сам з сябе
Будуе вежу
І лезе ўверх, як пераможны сцяг,
А я у вёсачцы сабе належу,
Ўсё неба, ўся зямля ў маіх вачах.

Ёсць там і творцы,
Ёсць у творчасць гулі,
Як і ў крыніцу заплывае муць.
У вёсцы ёсць і пеўні, і зязюлі,
Ды іх прыемна
Бачыць тут і чуць.

# З думкай пра нашчадкаў

*Народнаму артысту Беларусі*
*Міхаілу Казінцу*

Жыццё — з падзей, людзей, эксперыментаў,
З дабра і зла — і шмат яшчэ з чаго.
Адзін з апошніх ён інтэлігентаў —
Дай Бог жыццю такіх пасля яго.

Бяздарныя ад «я» свайго асіплі,
Заўсёды рэжуць слых іх галасы.
А ён, сапраўдны талент, вельмі сціплы,
Нясе душы узнёсласць праз часы.

Нясе і множыць, з думкай пра нашчадкаў,
І дорыць дасягненні ўсе свае.
Сваё жыццё ён шчодра, без астатку
Духоўнасці высокай аддае.

І вось з такіх асобаў менавіта,
Пакінуўшых адметны творчы след,
Складаецца духоўная эліта
І ўвесь нацыянальны знакаміты,
Між іншых нацый, свой культурны свет.

## «Вясёлае месца»

Я быў на могілках —
наведаў родных,
Душыла цішыня
Шчымлівым фонам.
О колькі тут
Ляжыць людзей нязгодных
З няўмольным
І няпісаным законам.

Сядзеў я тут
і ў кожным успаміне
Перабіраў шчаслівыя гады.
Раптоўна.
Падкацілі на машыне
Мужчыны незнаёмыя сюды.

Я зразумеў, як кажуць,
Без суфлёра,
Хоць меў
Уласных думак перабор,
Што іх на могілкі
Прыгнала гора
Што хтосьці з родных
ці сяброў памёр.

І сапраўды,
Адразу ж незнаёмцы
Рухавіць пачалі —
туды, сюды.
— Капáць не будзем тут,
тут мала сонца,
А тут нізінка,
будзе шмат вады.

Тут дрэваў шмат
і пахмурна здаецца,
Няўтульна будзе тут яму ляжаць.
Зірніце! Вось вясёлае дзе месца!
Адсюль відаць
І рэчка, й сенажаць.

Капаем толькі тут
і без прадмоўкі! —
І дружна, нібы іх натхніў анёл,
Ўзялі з машыны ёмкія рыдлёўкі
Й капалі
На «вясёлым месцы» дол.

«Во чалавек! —
Адчуў я думкі золкасць,—
Якое ён дарослае дзіця!
Ён хоча даць
апошнюю вясёласць
Таму, хто назаўжды
Пайшоў з жыцця».

## Вечная кніга

Ёсць кніга вечная?
Сцвярджаю смела — так!
Чытаем мы яе,
не ўдумваемся ў гэта,
Пралістваем яе,
то нехаця, то ўсмак,
Па ёй блукаем
ад сюжэта да сюжэта.

Яна — энцыклапедыя для ўсіх
Ад веку ў век,
Навукі кладзезь цэнны,
адноўлены і генны.
Зачытваліся ёй —
і першабытны чалавек —
Неандэрталец —
Продак непісьменны.

І часу больш прасветленага,
ў працу ўрослы сын,
Ў душы чыёй
пачуцці не памёрлі —
Амаль што непісьменны,
лапцяжны селянін
І пралетарый
З лозунгамі ў горле.

Сучаснасць не ў баку —
чытаюць з году ў год
Яе кіраўнікі —
Свайго народу слугі.

І мусіць карыстацца
ёй і сам народ,
Сціскаючы зубамі
лёсу цуглі.

А хто ж ён аўтар?
Хто?
Вось гэта дзіва — бач!
А дзіва ў тым,
што аўтар кнігі «класік»,
Пісьменны й непісьменны,
вядомы нам чытач —
Неандэрталец,
Селянін,
Сучаснік.

# Дар часовы

Кожны нечым незадаволены,
Не даецца Жар-птушка ў рукі.
Ох, жыццё!
Ты як нерв аголены,
Ты — то вольніца, то прынукі.

Інквізіцыя ты, дэмакратыя,
То — ні кроплі, то — поўная чаша.
Мы такія былі б крылатыя,
Каб не гены — заземленасць наша.

Каб ні вечнасці сіла варожая —
Ўсім з народзін прысуд суровы.
Ой, жыццё!
Ўзнагарода ты Божая,
Дар бясцэнны, ды ўсё ж, часовы.

## Выключэнне

Ёсць паводзін рубяжы,
Этыкет застольны.
Зазіраць у рот чужы,
Кажуць, непрыстойна.

Колькі б лёс у нас забраў
Усмешак вясёлых,
Каб у рот не зазіраў
Доктар-стаматолаг?

## Абрыдла ты

Я заблудзіўся ў гарадскім раздраі,
Сярод бязлікіх твараў, мін і спін.
Мне холадна душою, я ў адчаі,
Тут цесна ад людзей, а я адзін.

А я адзін, нібыта у пустыне.
— Дапамажыце выйсці мне адсюль!..
Хтось прамаўчыць,
Хтось на хаду штось кіне,
А большасць — на мяне увагі нуль.

Я ў лабірынтах тлумных і каменных
Блукаю.
Зноў скразняк з пад’ездаў-нор.
О колькі змарнаваў бясцэнных,
Блукаючы,
Тут страціў лепшы твор.

Абрыдла ты, о клетка гарадская,
Я састарэў ў тваіх абдымках тут.
Я чую! Чую, як мяне гукае
Адзіны родны мой, Лагойскі кут.

## Адданы час

Мой сум, як месяца святло,
Душу і светліць, і міражыць.
І тое, ўсё, што аджыло,
Здаецца, меней важыць.

Я штучнай радасцю жыву
І светлым сумам натуральным.
Між гэтым лезе ў галаву
І думак рой адчайны.

І тлумяць галаву яны
Ўвесь час настойліва, упарта:
Гадам жыцця *няма цаны*
Ці не таму, што ўсе яны,
Нічога і не варты?

Бо дакаціўся і да нас
Забруджаны, з усяго свету,
Да творчасці астылы час,
Адданы толькі інтэрнэту.

## Калі дажыву...

Помню, я раіўся з мамай не раз,
Розным, як кажуць, дурыў галаву,
Штось прапаноўваў, а чуў у адказ:
— Зробім, сынок…
Добра, сынок…
Абавязкова, калі дажыву.

Маміны словы здзіўлялі. Яны
Мной успрымаліся ледзь не як жарт —
Як не дажыць да наступнай вясны
Ці да?..
Наперадзе ж featурнага шмат…

Спраўна над намі падзеі гулі,
Адвіравала й гадоў табала.
Мама даўно ужо спіць у зямлі,
Шмат да чаго яна не дажыла.

Што ж, і мяне сёння старасць хіне,
Прага ж да спраў кожны дзень «на плаву».
Штосьці планую, а думка ўва мне
Напамінае — калі дажыву.

## Небяспечнае полымя

Каханне — свет і Божы, і бязбожны,
Каханне — свет спакусаў і грахоў.
У гэты свет хоць раз прыходзіць кожны,
Прыходзіць — і няма назад шляхоў.

Каханнем хтосьці да нябёс узнесены
Ці зрынуты у бездань для пакут.
Каханнем неўзаемным лёс закрэслены,
Ўзаемнае каханне дорыць цуд.

Мы без кахання выглядаем кволымі,
І волатамі — пры спатканні з ім.
Каханне — нестухаючае полымя
І небяспечнае,
А мы ў яго ляцім.

# Ляціце ў свет

Вяршыня верша — вышыня Галгофы,
Размах яго — бязмежнасці жыцця.
Ў радкі ўдыхнуць душу і сэнс у строфы
Складана, нібы выхаваць дзіця.

Адзінства сэнсу й формы — векавая
Калыска, што ўзлюляла шмат імён.
Як часта дзеля формы сэнс знікае,
А ад парожняй формы — пустазвон.

А што́ я сам у шматцікавым свеце?
Крыху цікавы ці прыкметны ледзь?
Ляціце ў свет ад сэрца вершы-дзеці,
Хацелася б за вас не чырванець.

## Мацуй нас, Бог!

Ўбірае восень у сябе
вясну і лета,
Сцяжынкі нашы ўсе,
Дарогі ўсе, шляхі.
Ўсё прыме ў царства
пазалочанае гэта —
Юнацтва,
Сталасць,
Дабрадзейнасць
І грахі.

А як каханне?
Тут яно — нідзе не дзецца.
Яго акрыленасць вядома нам даўно.
І хоць вясной
Каханне трапіла у сэрца,
У гэтым сэрцы
будзе й восенню яно.

Вось так і крочым па жыцці мы
Й ранкам раннім,
І восенню халоднай
з марай аб вясне.
Нязменна, ў сэрцы
з нестарэючым каханнем —
Мацуй нас, Бог,
пакуль зіма нас не глыне.

# Жыцця пупавіна

Ад зямлі б адарвацца —
мара мараў усіх,
Але ж тут калыханка і маці.
Ну а тых, хто ўзляцеў
і забыўся на іх,
Прыцягненне зямное
прымусіць упасці.

Узляцець бы, ўзляцець!
Але ж тут родны кут,
Продкі продкаў — жыцця пупавіна.
І само тут жыццё —
наш пакутлівы цуд,
Наша вечнасць і наша хвіліна.

Я — ўсё ж узлячу,
хоць абрынуся ў дол
Незаўважанай знічкай бязвеснай.
Мне падказваў не раз
мой ахоўнік Анёл,
Што няма яе, манны нябеснай.

# Белапеннае мора

Белапеннае мора, рамонкавы цуд,
Як жывыя, гайдаюцца хвалі
Хто ж вас, краскі-рамоначкі, высеіў тут,
Забяліў вамі посныя далі?

Гэта ж трэба сабрацца такой табалой,
Каб разбегчыся, закарагодзіць.
Вы ля хаты маёй, на Радзіме малой,
Найвялікшае дзіва ў прыродзе.

Белай марай жыве, як і я, родны кут,
Нашу повязь душой адчуваю.
Колькі «любіць — не любіць»
Ў рамоначках тут!
Але як не любіць родны краю?

## Міжрадкоўе

Праз уласны мой лёс,
праз уласнае «я»,
Праз грамадства грахоўна-прачыстае,
Пралягае складаная
творчасць мая,
Паэтычная і жывапісная.

На душы —
Самых розных пачуццяў гара,
«За» да «супраць»
нярэдка хінулася,
Не крычаў я,
дзе трэба й не трэба «ура!»,
Але й «ганьба», дзе трэба
ледзь чулася.

Каб натхненне душы
не ўдавіла сіло —
У словах — сэнс,
але лепш — двухсэнсоўе.
І маўчанне —
Далёка не згодай было,
Не маўчала маё й міжрадкоўе.

## Зазімак

Першы ў гэтым годзе мокры снег
Суха прадказаў прагноз надвор’я.
І часцей над комінамі стрэх
Дым ляціць у цемры да сузор’яў.

Пэўна, прадчуваюць снегапад
Й набліжэнне золкай халадэчы,
Ціснуцца усё бліжэй да хат
Птушачкі, а ўсе каткі — да печы.

Першы снег — зазімак, не зіма —
Як жа цябе, зімка, не хачу я!
Той, ў каго свайго жытла няма,
Дзе ён сёння, заўтра заначуе?

*11.XI.2018*

## Не надыхацца...

Не надыхацца тут, не нацешыцца,
Мае родныя сэрцу мясціны,
І пад сонейкам,
І пад месяцам,
І пад дахам бацькоўскай хаціны.

Не нагледзецца на лугі, палі,
На лясоў вераснёвых пажары.
Тут гады мае адгулі, сплылі,
Тут здзяйсняліся й не
Мае мары.

Не наслухацца цішыні начной,
Светлай ранічкай спеваў птушыных.
Дзе ні буду я,
Вы ўва мне, са мной,
Мае родныя сэрцу мясціны.



*Весь я тут...*

## Абгрунтаванне

Абгрунтаваць сябе на гэтым свеце
Тэарэтычна прагнем
І практычна
Практычнасці вяршыня —
нашы дзеці,
Мы й дом будуем,
дрэвы на прыкмеце,
Тэорыя ж імчыць
больш дынамічна.

О гэта наша
з «не хачу» змаганне!
Змагання вынік не адразу бачым.
Ёсць і ў мяне галоўнае жаданне —
Хачу я, каб маё абгрунтаванне
Было бясспрэчным
І пераканаўчым.

## Святкуе ноч

Лунае месяца святло
І прывіднасцю ноч чаруе.
А лесу чорнае крыло
Па-свойму гэту ноч святкуе.

Тут цені непрыкметна ткуць
Карункаў вязь для лесавічкі.
І ў цемры лесу можна чуць
Соў таямнічых пераклічку.

І хоць святкуе ноч, не дзень,
Пад месяцам заўважыць можна,
Што тут жывуць святло і цень,
Як і ў жыцці, і ў лёсе кожным.

# Казкі-мары

Крывёй сыходзе  бык
паціху на карыдзе,
Быў дужы, а цяпер
жыццё спыняе рух…
Зямля праз нейкі час
крывёю-нафтай сыйдзе,
Ўвесь выпампуем газ —
Зямля іспусце дух.

А дзе ж нам жыць далей?
Выношваюцца мэты —
(Зноў думкай багацее
дурань, як заўжды)
Мы будзем абжываць
далёкія планеты!
Мы паляцім!
Куды?
У бязмежжа, ў нікуды.

Мы высадзім дэсант —
сваіх Адама з Евай,
Каб напладзілі там
такіх жа, як і мы.
За імі дружна ўсе
пакрочым — Левай! Левай!
Вось так вось, без праблем
збяжым з Зямлі-турмы.

Ну што ж,хай будзе так,
складана жыць без веры,
Ці ж можа быць жыццё
ад мары у баку?

Мы бачым над сабой
адчыненыя дзверы —
І ўсё ж наш «новы дом»
пакуль што на замку.

О як любілі мы
ў сваім маленстве казкі,
Яны для нас былі —
ў чароўны свет акно.
У чалавецтва сёння
праблемаў «пад завязку»,
І ўсё ж без казак-мар
не можа жыць яно.

## Манашы пострыг

Мой верш быў з слоўцаў вострых,
Грашыў, як хуліган —
Манашы здзейсніў пострыг,
Прыняў смірэнны сан.

Даволі! Адблюзнерыў,
Адштукаваў, адкпіў.
Адкрыў да Бога дзверы,
Да д’ябла зачыніў.

Ўсё ж не пазбегчы сораму,
не вытрымаў я тэст,
Змяніўшы лёгка форму,
Не аднавіўшы змест.

Даруй, Святая Дзева,
Няўпэўнены мой крок,
Бо зноў глядзіць «налева»
Мой хоць адзін радок.

Блюзнерства, як кароста,
Яно — душы раздрай.
О, як гэта няпроста
Адразу з пекла ў рай.

## Апошні рубеж

Прыйшоў улегцы я у сёння —
з сэрцам чулым
Астатняе, што меў,
губляў па свеце я.
Блакіт вачэй маіх
застаўся у мінулым,
там недзе, між гадоў,
і маладосць мая.

Вярнуцца б мне туды
з сучаснасці-аблогі,
Ды тое, што згубіў,
нязмененым знайсці.
Але ў той лепшы час
няма, на жаль, дарогі,
І нават каб была,
не хопіць сіл дайсці.

Апошні мой рубеж —
ні ўперад, ні вярнуцца,
Адвечны свой напой —
атруту думак п'ю.
Душой бы да душы
ласкава прыхінуцца —
Як той раскуты конь,
няўпэўнена стаю.

## Першага верасня

Першага верасня!
Ў школку, сынок!
Ты ж не спазніся на першы урок.
Слухай уважліва кожнае слова,
Станеш разумненькім абавязкова…

Тое далёкае — першага верасня…
Сумнае блізкае — дзень мой цяперашні.
Ў горле ўспамінаў няпрошаны ком —
Хто назаве мяне сёння сынком?

Бульбінку ў торбачку да буквара
Хто пакладзе мне альбо сухара?
Дапамагалі углыбіцца ў веды,
Паміж урокамі тыя абеды.

Я дажываю ўжо восьмы дзесятак,
Ды не забыўся вучобы пачатак —
Першага верасня,
Першы мой крок
Ў школку…
А хутка апошні урок.

## Праменьчык серабра

Апошні летні дзень пакорна дагарае,
Ліецца ціхі сум з пачырванелых шчок.
Здавалася, што лету канца не будзе, края,
Калі бадзёры чэрвень зрабіў свой першы крок.

Мы ведаем, што лета імгненна праімчыцца,
Пашле апошні дзень у восень, як ганца.
Ах, лецейка жыцця!
Нам мала — толькі трыццаць!
Ах, наша моладасць, без края і канца!

Што маладосць прайшла, мы заўважаем гэта,
І не таму, што рвём лісткі календара.
Тады апошні дзень свайго мы бачым лета,
Калі мігне у скронях праменьчык серабра.

## Што яшчэ трэба!

І хоць іду я Шляхам Млечным,
На ім за мной — за словам слова,
Нішто пад месяцам не вечна,
Нішто пад месяцам не нова.

Мае няўрымслівыя вёсны,
Маю́ духоўную «маёмасць»,
Сучасныя уткалі кросны
У будучую невядомасць.

А я ўсё Шляхам Млечным крочу,
Рыфмую сэрца з зорным небам,
Душу рыфмую з зорнай ноччу —
А што яшчэ для вершаў трэба!

## Аўтатост

Адзін я.
Сам сабе тастую —
Хоць вый, хоць енчы, хоць брашы.
Вось так агонь у халастую
Гарыць, а побач ні душы.

Як слабнуць з часам дрэў карэнні,
Іх адпраўляючы на звод,
Так падгінаюцца калені
Жыццёвых спрацаваных год.

Такое параўнанне — ўцеха,
Бо ўсіх не абмінае Бог.
Я, тост мой і ад тосту рэха,
Раздушым пляшку тут на трох.

Мой сёння аўтатост кароткі,
Як крок астатняга жыцця:
— Ну што? Ці не пара да продкаў?
Кульні. Глыні.
Да адплыцця!

## Ой, ты спадчына...

Ой ты, спадчына, мая спадчына —
Найбясцэнная мова матчына!

Светла-чыстая, свята-Боская,
Ты зямля мая Беларуская.

Тут мінуўшчына сэрцу чуецца
І душа мая тут утуліцца.

Ой ты, спадчына, мая спадчына,
Творчай мукаю ты адзначана.

І крутая ты, й памяркоўная,
І блюзнерная, і духоўная.

Ці узнёсласць, ці заняпадзіна,
Ўсё, што ёсць — маё,
Богам дадзена.

## Уваход і выхад

Вельмі проста ў жыццё
Увайсці немаўляці —
Дзе ён?
Хто ён?
Адкуль?
Спазнае пакрысе.
Як на крылах Анёл,
На руках яго маці,
З дня у дзень,
Ахінутага ласкай нясе…

Вось ужо чалавек —
Паважанага веку,
Адлістала жыццё,
Як старонкі, гады.
Як жа выйсці няпроста
З жыцця чалавеку,
Бог прымае яго без праблем
Не заўжды.

То хваробы,
То лёс састарэлы складаны,
А фізічных нямогласцяў
Шмат у старых
Асабліва лютуюць
Душэўныя раны
І памылкі былога,
Не зменіш якіх.

І благія учынкі
На сэрцы, як путы,

Нібы брудныя плямы
На ўласным жыцці.
Век пражыў чалавек,
І — пакуты, пакуты,
Праз якія не хочаш,
Ды мусіш ісці.

Хоць жылося не блага
І сэрцам не стынеш,
Мы святкуем душой
І нярэдка крычым.
Як бы доўга ні жыў,
Непазбежна на фініш
Мы прыходзім заўжды заклапочана —
З чым?

# А я падгаманю

Гамоніць лес, а я падгаманю,
Нам ёсць што з ім
праз столькі год успомніць —
І вёсны, і прадзім’я гарчыню,
І кожны лёс свой
успамінам поўніць.

А помніш,
Мілы дружа, хлапчука?
Жыццё ў вачах агеньчыкамі ззяла,
Вясны усход
Адбіўся на шчаках,
Ён быў увесь
з узнёслага запала.

А сёння…
Зазірні у вочы мне —
Агеньчыкі смыляць
няўхільнай стомай.
Нябачны хтосьці
долу плечы гне,
Я сёння іншы,
пэўна, незнаёмы.

І ты стаў, дружа,
іншы праз гады —
Амаль што не чуваць
птушыных спеваў,
І час не мала нарабіў бяды,
Вунь колькі палягло
у сіле дрэваў.

Ўзывалі буры
Над табой і мной,
Пад корань вырывалі дрэвы, лёсы.
Ты страпянешся,
Ажывеш вясной,
А мне й вясной быць
з галавой бялёсай.

І ўсё-ткі сувязь
паміж намі ёсць,
Цябе люблю я,
Ты — здароў’е зычыш
Я да цябе прыходжу
не як госць,
А ты мяне
Гаспадаром не лічыш.

## Мы – адно

І ў радках, і між іх,
шмат тут тэм і падзей,
І усмешак, і суму,
надзей і трывог.
Я пішу пра людзей,
я пішу для людзей,
Я пішу, як магу,
як дазволіў мне Бог.

Я ніколі не быў
да кагосьці спіной,
Кожны мне чалавек
непаўторны заўжды.
З вамі я, чытачы,
вы — ўзаемна сам мной,
На старонках жыцця —
мы адно на гады.

## Па моры часу

Па моры часу
праплывае кожны
Сваёй,
Пакуль нязведанай дарогай.
Хто з поўнаю душою,
хто — парожні,
Хто сам,
А хтосьці з нечай дапамогай.

О мора часу,
без канца, без краю,
Гудуць выпрабаванняў хвалі
Пенна.
Пад ветразем
Надзеі ці адчаю,
Ў адным напрамку
мы плывём нязменна.

Адзначыць час не ўсіх
вышэйшай пробай —
Палохалі ўсіх
водныя арэлі,
Пакутваў хтосьці
ад марской хваробы,
Кагосьці сустракалі
рыфы, мелі.

Вятры зласліва
ўсебакова дзьмулі,
Студзілі зімы,
Апякалі леты.

А колькіх хвалі лёсу
Паглынулі,
Шматлікіх тых,
хто не даплыў да мэты.

Камусьці —
Даставаўся лёс-пакутнік,
Хтось іншых ратаваў,
Нібыта Ной.
У кожнага —
Бермудскі свой трохкутнік,
У кожнага
дзявяты вал быў свой.

## Сёння як?

Дзень — на дзень,
Як пад капірку.
Святы рэдкія не ў лік.
Голад з беднасцю ў прыцірку,
Безвыходнасці тупік.

Вёскі хліпаюць панура,
Захлынаюцца на дне.
У заробкаў — косці й скура,
Пенсіі — што ёсць што не.

І ад успамінаў клятых
Ў горле горычы камяк…
Так бывала ў пяцьдзесятых,
Ну а сёння ў вёсках як?

## Антаганісты

Кажуць, розум і пачуцці
Памірыць не ўдасца.
О, пачуцці — кроплі ртуці,
Іх уловіш?
Трасцу!

Розум ім зайздросціць ўсё-ткі,
Ёсць жа гулі, святы.
Чалавечы век кароткі,
Стрыманасць, як краты.

І жывуць ў адной асобе
Два…
Не, Янус нейкі!
Ды здароўе ўсё ж хваробе
Вынаходзіць лекі.

## Неасцярожны чалавек

Мы атамную станцыю
будуем на касцях
Чарнобыльскіх ахвяр —
іх не злічыць.
І зноў ісці жыццю далей
праз невядомасць, страх,
З пытаннем вечным —
жыць альбо не жыць?

Спытацца бы у тых
каго Чарнобыль сцёр з зямлі —
У цэлых вёсак,
У малых дзяцей,
У тых, хто век кароткі свой
у муках дажылі,
У тых хто з мірным атамам
ў крыві з жыцця пайшлі,
У тых,
Заўчасна створаных смярцей:

Ці згодныя вы жыць
з цяплом ад печы, як дзяды,
З цяплом ад дроў,
Ад торфу,
Ад вугля?
Ці цешыцца ў цяпле
сучаснай атамнай бяды,
Якой баяцца
Людзі і зямля?

Адказ вядомы ўсім,
ды ён адзінкам не з рукі,

У тых адзінак,
атам — шык! Ого!
Праз дваццаць, сорак год
сыйдуць з жыцця «будаўнікі»,
Барані Бог бяда —
спытаць з каго?

Апёкшыся аднойчы,
той агню баіцца век,
Ён полымя баіцца —
Проста жуць!
Зноў лезе ўсё ж ў агонь
неасцярожны чалавек —
Навошта ж іншых
у агонь цягнуць?

# Залежны ад цябе

Даруй мне, Муза,— не ў палацы
З табой сустрэцца нам дало.
Ў юнацтве, на калгаснай працы,
У нізенькай бацькоўскай хатцы,
Душой адчуў тваё святло.

Было мне даспадобы дужа
Штось зарыфмоўваць для сябе.
Тады не чуў я й слова «Муза»,
Хоць быў залежны ад цябе.

Тады мой фрак, мае штыблеты —
Ватоўка й боты у гнаі.
І ўсё ж падаравала мне ты
Ключы ад творчае сям'і.

І праз усе выпрабаванні
Мяне вяла й вядзеш мяне.
Цяпер, як і ў перыяд ранні,
Тваёй узнёсласці дыханне
І грэе й да сябе хіне.

## Конь

Мой верны конь прытомлена брыдзе
І пугаўё яго не панукáе —
Мінулае не дзенецца нідзе,
А будучыня — дробязь, пачакае.

Адплакалі між хмараў жураўлі
І зноў над галавой маўкліва й шэра.
Куды спяшацца? Святы адгулі,
Наперадзе апошняя вячэра.

Углыбіўся ў сябе я і прыціх,
Ад успамінаў цесна мне на возе.
Я лейцы адпусціў, бо конь без іх
Прытулак знойдзе — ён даўно ў дарозе.

## Хор і сола

Гучыць мой верш ці не,
Не чую я і сам,
Хоць голасам лячу
У свет бязмежны гэты.
Але вакол мяне —
Узрушаны бедлам,
Дзе толькі ні зірні —
Паэткі і паэты.

І дэцыбелы ў іх паэзіі —
Найперш,
І спраўна з верша ў верш
Рыфмуюцца глаголы.
І сярод рыфмаў іх
Пакутуе мой верш,
І ўсё ж, калі ёсць хор,
Павінна быць і сола.

## На крылах вечнасці

Усіх нясуць гады
На крылах вечнасці.
Куды?
Не ведаем пакуль,
На жаль.
Хто ў кіпцюры патрапіць
Вечнай нечысці,
А хто да Госпада
На вечны баль.

Ад нецярпення мне
Свярбіць патыліца —
Хто па анкеце я,
Ядрона мацъ?
Душа, хоць грэшная,
Да Бога хіліцца,
Ў яго хацелася б
Пабаляваць.

Я пры жыцці пасціў,
Хаця й канчаўся пост,
Бо мой дзіравы быў
Жыццёвы дах.
Я бы у Госпада
Падняў святочны тост —
За тых, хто ў нечысці
У кіпцюрах.

Бо хто бязгрэшна жыў,
Быў той пасвенчаны
Жыцця пакутамі,
Ад іх знямог.

Хто працаваў жыццё,
Лічыў капейчыны,
На іх як быццам бы
Забыўся Бог.

Пра гэта чута шмат
І шмат прачытана,
Бывае збой дае
І час-каваль.
Баюся, ў вечнасці
Ўсё пераблытана:
Бязгрэшны — ў кіпцюры,
Жульё — на баль.

## Ціхі сум

Быць сумным лёгка, я такі і ёсць.
Ці як сказалі б — нефотагенічны.
Напэўна, я такі — несімпатычны
І збегла з майго твару прыгажосць…

Зямлю накрыў ад чорных хмараў цень,
І дождж ліе, хоць ён зусім не трэба.
Над хмарамі ж ва ўсю праменіць дзень
І гэтак жа ва ўсю, блакіціць неба.

І ў чалавеку ёсць душы партрэт,
Як для каго — прыемны, непрыемны,
Не для вачэй чужых. Там — іншы свет.
Які? Вясёлы? Сумны?
Патаемны.

Вясёлым быць? Складана для мяне.
У весялосці штучнага не мала.
Няхай вас ціхі сум мой абміне,
Каб весялей вам весяліцца стала.

## Злуецца безгалоўе

За вокнамі злуецца навальніца,
Трава ад ветру палягае ніц.
Напэўна, не пашкодзіць памаліцца,
Каб абмінулі джалы бліскавіц.

А ў чорных хмарах
грукаціць каменне,
То гулка, то цішэй —
І без канца.
Гусцее дождж, як сыпкае насенне,
Як шчодры дар нябеснага сяўца.

Злуецца безгалоўе ў паднябессі,
Маланкі мітусяць —
то тут, то там.
О, як няўтульна птушачкам у лесе,
О, як жа страшна
ў лузе матылькам.

## Святлу насустрач

Калі званка чакаеш тэлефоннага,
А тэлефон маўчыць і дзень, і месяц,
Не ведаеш,
як выйсці «з царства соннага»,
І тэлефон маўчаннем словы крэсліць.

І цішыня назойлівая, гулкая,
І паўза тэлефонная такая,
Няхай агорне нас
Здагадкай-думкаю:
Магчыма хтось ад нас
званка чакае.

З сустрэчамі бывае штось падобнае —
Наскучыць аднаму
сядзець за печчу,
Надыдзе паласа бязлюддзя цёмная,
Святлу сустрэч ідзіце на сустрэчу.

## Нежывыя людзі

Жывуць жа нежывыя людзі
То там, то тут, сярод жывых.
І адчуваецца — не ўбудзе
Ў бліжэйшай перспектыве іх.

Ім сэрцы грэе цемра ночы
У свеце схованым сваім.
Хто слепатой зашкліў ім вочы?
Замураваў хто душы ім?

Не прарасце падгнілы жолуд
Ні ў глебе ўгноенай, нідзе.
І ад размовы з імі, холад,
Нібы ад поўначы ідзе.

Яны ўраслі ў такую ролю,
Для іх галоўная яна.
Да клопатаў чужых, да болю,
Да не свайго — яны сцяна.

Сцяна жыцця іх — нежывая…
Пратэст выказваю ім свой.
Кажуць — папера ўсё стрывае,
Не, не прыемна сёння ёй.

## Было – будзе – ёсць

Душы і сэрцу думкі тлумяць
Пра ўсё былое, як назло.
А мне так хочацца не думаць
Пра тое, што жыццё было.

Было…
Якое гэта слова,
Без сёння, без надзей, без мар,
Без нас — нібыта выпадкова
Прамень праблiснуў памiж хмар.

Ён быў ці не, ці падалося?
«Было»… Было яно ці не?
Усё, што будзе ў нашым лёсе,
Усё ідзе ў «было», міне.

Не даспадобы й слова «будзе»
Калі у ім не будзе нас.
Дык што, святое правасуддзе,
Які ж нам даспадобы час?

Жыццё Гасподзь нам ахвяруе
У словах двух — часовы госць.
Якое ж слова абяру я?
Было ці будзе?
Лепей — ёсць!

## Жыцця матыў

Зямля мая, матуля,
Узнесшая мяне,
У час любы прытуліць,
Ласкава прыхіне.

Зямля мая, сястрыца,
Вакол, на ўсе бакі.
Зямля, якая сніцца,
Якой не наталіцца
Душой і за вякі.

Зямля, чый покліч чую
Я сэрцам, дзе б ні быў.
Тут днюе і начуе
Жыцця майго матыў.

## Апошні яблычак

Спаўна
Адлéцеў час зялёны,
Кастрычнік з намі развітаўся.
На голай яблыньцы —
Без кроны
Апошні яблычак застаўся.

Вятры адзенне з дрэў злупілі,
Нібы з ахвяр сваіх злачынцы.
А яблычак —
З апошняй сілы
Вісіць на тоненькай галінцы.

Разгойдвае яго прадзім’е,
Зямлі магніціць прыцягненне,
Здаецца,
Што сарвецца, грымне
Упарты яблык праз імгненне.

Дзьме безгаловіца разгульна,
Прэч праганяе восень спешна.
І лістападу ўжо няўтульна,
Дыханне адчувае снежня.

А яблычак?..
Як птах бяскрылы,
Ў паветры стылым мітусіцца.
Якою моцай напаіла
Яго карміцелька-зямліца?

Гібее ў прадзімовым спеве
Мой сад ў бязлітасці адвечнай.

Вось так вось
На сямейным дрэве —
Апошні я, недаўгавечны.

Майго жыцця прадзім’е стыне,
І думкі колюць, як ільдзінкі.
Імгненне,
Дзень
Ці год абрыне
Мяне з аслабленай галінкі?

## Не ажыве

Мне засталося мала зжаць,
А што сажну, згіне ў сусеках.
І будуць пыльна сумаваць
Мае тамы ў бібліятэках.

Навошта ж столькі ўклаў душы
У кожны твор — святую існасць?
Год меркантыльных ледзяшы
Над мною створаным павіснуць.

Не, не палюбіць кніжак, Серж,
Век інтэрнэтна-электронны.
Не ажыве ні том, ні верш,
Хай нават Богам блаславённы.

## Крыж на грахі

Ў царкве, якую будавалі
Даўно, аж трыста год таму,
Час гонар мой паклаў на шалі,
Напрыканцы жыцця.
Чаму?

Неверагодная адказнасць
І вопыт мой — каля нуля,
Саманадзейнасці ашчаднасць,
Дапамагалі спакваля.

Дапамагала мне натхненне
І груз задумак на гарбе,
І Філарэта блаславенне,
І вера ў Бога, і ў сябе.

Усё ж пісаў я не іконы,
А ўласна створаных святых.
Таму не заўважаў каноны,
Бо і жыццё пражыў без іх.

І ўсё ж уклаў душы не мала
У роспіс…
Час здаля цячэ —
І ў гэты Храм Пятра і Паўла,
Прыходзіў я малым яшчэ.

Прыходзіў з мамай не маліцца,
Стаяў ад дзіва ледзь жывы,
Выносілі як Плашчаніцу
Й абносілі вакол царквы.

Людзей збіралася на святы
З усёй акругі — безліч іх.
І над царквою крыж узняты
Пашанна бласлаўляў усіх.

Не думаў я, малое дзіце,
Што праз дзесяткі доўгіх год,
Тут будуць вернікі маліцца
На, мною распісáны свод.

Я пастарэў, жыццё мінае,
З грахоў не вылез я сухі
І праца роспісу святая,
Як крыж на ўсе мае грахі.

# Сава галёкае

Сава галосіць.
Ночы цёмныя.
Пад змрочным покрывам абшары.
І хмары чорныя, бяздомныя,
Ялозяць месяцу па твары.

Сава галёкае.
Хавайцеся,
Начныя птушкі,
Мышкі,
Зайкі.
Пара і мне ў пасцелю класціся
І браць у рукі разгадайкі.

# Будзьце асцярожны

Калі у сэрцы нечым боль лютуе,
Муштруе, нібы шторм-дзевяцібальнік,
Параненае сэрца хто адчуе?
Адзіны толькі сэрца уладальнік.

Мы раўнадушшам боль толькі аголім,
Альбо бездалікатным распытаннем.
Як цяжка жыць, змагацца з гэтым болем,
Неузаемна сэрцам закаханым.

Боль сэрца гнуў, ламаў нават тытанаў,
Ў юнацтве боль адчуў амаль што кожны.
О колькі ў сэрцах носяць людзі ранаў!
О колькі сэрцаў — будзьце асцярожны!

## Знікаюць міражы

Пры жыцці паэтам лёгка звацца,
З рыфмаў плетучы ажыятаж.
Пасля смерці цяжка ім застацца,
Быў паэт — і знік, як той міраж.

Многія ў Саюз пралазяць лоўка —
Штосьці напісаў і выдаў штось.
Наш Саюз пісьменніцкі — масоўка,
Ёю праміражаны наскрозь.

У Саюзе цесна, літаральна,
Ад заяў і аўтарскіх анкет.
«Пачкамі» ўступаюць штоквартальна —
Кожны — то празаік, то паэт.

Паляўнічы робіць той памылку,
Ў чыёй стрэльбе халасты зарад.
Выклікáе у людзей ухмылку
Густа распладзіўшыйся наш брат.

## Праменіць памяць

Пасля блуканняў
Па зямлі маіх,
Хачу пайсці з жыцця я,
Божа-браце,
Не ў стылых
Казематах гарадскіх,
А у Карпілаўскай
Бацькоўскай хаце.

Жаданні ўсе
Адкідваю я ў бок,
Адным-апошнім
Завяршаю долю —
Няхай сустрэнецца
Мой самы першы крок
І крок апошні —
Тут і нідзе болей.

Не зможа перадаць
Ні плач, ні смех,
Не здольны напісаць
Ніякі геній —
О колькі тут было
Жыццёвых вех,
О колькі лёс тут
Выкрасаў імгненняў!

Праменіць памяць тут
На ўсе бакі,
Ад першых крокаў,
Ад дзвярэй, ад ганку.

Маю душу
Адорвалі бацькі,
Духоўна,
Шчыра,
Мудра па-сялянску.

Ад матухны прыроды,
Ад зямлі,
Ў гармоніі былі
З зямлёй і светам.
А што за людзі
Колісь тут жылі!
Быў кожны кожным
У той час сагрэты.

Адкрытасць і бясхітраснасць тады,
Былі зямлі, як бы сказалі,
Соллю.
О мілыя мінулыя гады!
О тое,
Што не вернецца ніколі!

## Музеяў экспанаты

Камбайнаў не злічыць — які размах!
Ідуць па полі роўненька, ў лінейку.
І ўсё ж лугі сумуюць па касцах,
Палі сумуюць па запеўных жнейках.

Без тэхнікі — ніяк
Я — не сляпы,
Але ў старых людзей
з мінулым лёсы.
Зямельцы штось нашэптвалі сярпы,
Насвіствалі штось лугавінам косы.

Зямлі мы неад'емнасцю былі
І адчувалі пульс яе і подых.
Мы на нагах стаялі на зямлі,
А сёння — на жалезе і на колах.

Я разумею, сёння час другі,
Каса і серп — музеяў экспанаты.
Ў сучасным цвёрда дзве мае нагі,
Душа ў мінулым,
Там мае ўсе святы.

## «Гэта»

Хоць лёсу абаронца, фея,
Даўно ўжо да мяне спіной,
А ў сэрцы цепліцца надзея,
Што *гэта* будзе не са мной.

Я ж не займеў пакуль білета
І свеціць сонейка ў акне.
І неразборліваму *гэта*
Хапае спраў і без мяне —
Заблытаецца, абміне…

Так, пэўна, спадзяецца кожны,
Хоць на жыцці — *яе* аброць.
І веруючы, і бязбожны,
І самы бедны, і заможны,
*Туды* не пойдзе самахоць.

## Няма бяды

Я пішу й на рускай мове,
А чаму б і не?
Тут таксама, ў кожным слове,
Частачка мяне.

Для духоўнасці каштоўны
Розных моў Парнас.
Я вучыўся ў рускамоўнай
Школе у свой час.

Тое ўсё — маё «учора»,
Я яго мінуў.
Безліч беларускіх твораў
Потым я «глынуў».

Ды галоўнае багацце
Меў штодзённа я —
Мова таты, мова маці,
Й вёсачка мая.

Імі даадукаваны
Я на ўсе гады.
Роднай мове я адданы,
Што да рускай — я з пашанай,
І ў тым няма бяды.

## Сляды

Год-два, магчыма… і жыццё міне,
Зачыніцца над ім зямля сырая.
І змые час з гісторыі мяне,
Як на пяску прыбой сляды змывае.

Пакіне хтосьці новыя сляды,
І зноў іх спраўна зліжа хваля часу.
Ад гэтага не дзецца нікуды,
Хоць крыўдна за недаўгавечнасць нашу.

А чалавецтва ўсё ж ідзе туды,
Насустрач часу, хвалям — без спынення.
І пакідае за сабой сляды,
На жаль, не толькі мірнага стварэння.

## Падранак

На шары зямным,
На сядзібе ў садку,
Ля хаты бацькоўскай
Сяджу за сталом.
Адчуў я шчымліва
Ў сабе ўпершыню
Падранак-душу
З перабітым крылом.

На шары зямным
Самаробны мой стол —
Быў шумны й гасцінны,
Сумуе цяпер.
Цяпер шар зямны —
Што ні родныя — дол,
І выгляд стала
На жалобны манер.

Маіх успамінаў
Балючы уздых,
З дыханнем жыцця —
Ні ў папад, ні ў лады.
Я — неўтаймаваны,
Змяніўся, прыціх,
І штосьці памёрла
Ўва мне назаўжды.

І сціснуўся шар наш зямны —
У камяк,
Няўстойліва й хістка
Тут мне і сталу.

Мой лёс ссірацеў,
Не ўтрымацца ніяк —
О як перабітаму
Цяжка крылу.

Душа ўжо не выправіць
Болей крыла,
Узлётаў мінулых
Губляецца след.
Наперадзе —
Меней і меней святла,
Мінулае шырыцца,
Вузіцца свет.

## Прачынайся!

Дэмакраты…
Янкі…
Штаты…
У вар’яцтва на мяжы.
Елуўстоўн! Дапамажы!

Ісціну — публічна, жорстка,
Распінаюць на крыжы.
Елуўстоўн! Дапамажы!

Топяць суверэнітэты
Ў акрываўленай ілжы.
Елуўстоўн! Дапамажы!

Раскрываюць сквапна пашчу
На чужыя рубяжы.
Елуўстоўн! Дапамажы!

Шар зямны зарабавалі,
Беззаконне — іх закон.
Прачынайся, Елуўстоўн!

## На нябеснай столі

Глянуў я на неба,
Падалося на хвілінку,
Штосьці не ў парадку
На нябеснай столі.
Зорачка ублыталася
Паміж дрэў у голле,
Як жа яе выблытаць,
Не зламаўшы голля?

Ой залезці трэба мне,
Страсянуць галіначкі,
Але ж зорка зваліцца —
Ці найду яе я?
Неба не далічыцца
Зоркі-залаціначкі
І ад суму тайнага
Болей пацямнее.

## Прыйшоў Пятрок

Прыйшоў Пятрок, апаў лісток,
На восень павярнула лета.
І сонцу падстаўляе бок
Яно, як пекная кабета.

Куст, як задзіра-верабей.
Шырэй тапырыць голля крылы.
І неба дыхае глыбей,
І сонца жарыць з усёй сілы.

Ва ўсю стракоча весяло
Неўтаймаваная сарока —
Яшчэ і лета не прайшло,
Ды і зіма ад нас далёка.

## Безыменныя магілы

Здаецца, тут жалобіць час застылы,
На могілках, ля родных мне магіл.
А ёсць тут безыменныя магілы —
Ў зямлі там — прах
І зверху — прах і пыл.

Ні крыжыка,
Ні надпіса — нічога,
Грудок зямлі і той руйнуе час.
Аджыў сваё, адгараваў, нябога,
І ў памяці недаўгавечнай згас.

Хто ён? Ці хто яна? Стары? Дзіцятка?
Цікавы быў? Вясёлы быў? Які!
І гэта ўжо жалобная загадка,
Загадкай застанецца на вякі.

Чым больш такіх магіл,
Тым болей дзікім
Свет робіцца і безыменіць нас.
Яны крычаць сваім бязгучным крыкам,
Магілы безыменныя ўвесь час.

## Толькі сумленне!

Я натыкаюся на памылкі,
Я спатыкаюся аб грахі,
Я аб няшчырасць ламаю падкрылкі,
Блытаюць ногі бяздушша імхі.

Ад непатрэбшчыны гэтай збавенне,
І паваліцца ад іх не дае —
Толькі сумленне!
Толькі сумленне!
Компас духоўнасці, крылы мае.

Сэрца ад фальшы сумленне ратуе —
Як аб яго спатыкнуцца магу я?

# Ёсць...

Якая бездань мітусні будзённай
Паміж людзьмі, хоць тут і цесна ім,
Як глушыць сэрцы горад манатонны,
Як слепіць душы лжэсвятлом сваім.

Тут штурхануць у бок, у грудзі, плечы,
Дыхнуць у нос тым, хтó што піў і еў.
Не церануцца каб аб локаць нечы,
Тут немагчыма, нават, каб хацеў.

І гэта выклікае фон нервовы,
І ў поглядах блішчыць ўзаемны лёд.
Ненарматыўныя адсюль і словы,
Бывае, што пускаюць рукі ў ход.

А вось у вёсках ладзілі спрадвеку,
Ніхто не дапускаў да сэрца зло.
І чалавек быў рады чалавеку —
Было у вёсках так…
Ці ёсць?
Было…

## Не будзе спасу

З-пад пластоў падзей і часу
Выкараскацца спрабую.
Не, ад іх не будзе спасу,
Абяссілеў на бяду я.

Захаваўся сіл астатак
Ад няспыннага качэўя.
Горш за ўсё, што у дадатак
І душою пацяжэў я.

Падсумоўвае ўсё вынік —
Груз фізічны і душэўны.
Рана-позна, а гадзіннік
Выпрацуе ход свой пэўны.

## Пытанні-бізуны

Канчаецца жыцця майго дарога,
Задумваюся я й не першы раз —
Што я зрабіў?
З чым я прыйду да Бога?
Як выкарыстаў дадзены ім час?

О гэтыя пякучыя пытанні!
Б’юць бізунамі па спіне забаў.
Між гуляў прыкладаў я намаганні,
Каб больш карысных назапасіць спраў.

І ўсё ж прад Богам стану я жалобна
Узяўшы ў рукі вечнасці свячу,
А на пытанне: — Жыў ты Богаўгодна?
Ў адказ я сарамліва прамаўчу.

## Спробны крок

Абшары мутныя прыбелены
Зрэдзь зацярушаным сняжком.
І нібы дыванок пасцелены
Між яблынь сонных за акном.

Не, першы снег сябруе з таласцю,
Ён сыдзе — не надыдзе шок.
Таму зіма пакуль не ў сталасці,
А робіць толькі спробны крок.

Гадзіна — і ужо за вокнамі
Няма між яблынь дыванка.
Зіма, ўсе дні, якія «мокрыя»,
Іх забярэ ў сакавіка.

## Людзі!

Людзі!
Калі мы людзі,
І сэрцы у нас, не каменне,
Няхай паміж намі будзе
Узаемапаразуменне.

Няхай паміж намі не будзе
Нічога, апроч любові.
Веру — яе абудзіць
Шчырасць у кожным слове.

Глянем не ў бок,
Не ў спіны,
А ветліва — вочы ў вочы.
Выберэм лёс адзіны —
Сонечнасць, а не ночы.

Мы, толькі мы сабе суддзі,
І пры падзенні, пры ўздыме.
Людзі!
Калі мы людзі,
Будзем заўсёды імі.

Жыццё — карпатлівая праца,
Душы патрабуе не мала.
Людзі!
Людзьмі трэба звацца!
Так абуджаў нас Купала.

Людзі…
Не ўсе чыталі
Купалу —

Мяне тым болей
Людзі…
Кладуць на шалі
Будучы боль да болю.

Людзі…
Кладуць на шалі
Зброю да новай зброі.
Будуць ці не
Ў фінале
Ыратавальнікі Ноі?

## Зямля, як завушніца

Вясёлка весяліцца
З усмешкай на губе.
Зямлю, як завушніцу,
Трымае на сабе.

На фоне чорнай хмары
Яшчэ ярчэй яна.
І хутка на абшары
Ліне дажджу сцяна.

О колькі трэба шоўку
Для промняў, каб маглі
Нам выкраіць вясёлку
Ад неба да зямлі!

## Вяртанне

Заўжды —
Баліць што у каго,
Пра тое кожны і гавора…
Успомню я
З жыцця свайго,
Свой боль,
На жаль, не без паўтора.

Пяцідзесятыя гады…
Надзея,
Боль,
Будоўлі,
Скруха.
Гуляла па зямлі тады
Пасляваенная разруха.

А як жылі мы,
Як жылі,
Упрэжаныя у работу,
Абсохнуць
Не было калі
Ад поту
Да другога поту.

Ні крам,
Ні электрасвятла,
А радыё —
Ў сне толькі бачыў.
Глядзела з кожнага вугла,
Не проста голь,
Амаль нястача.

Харчы —
Вяліся «на нулі»,
Трапляла не заўсёды сала,
«Прысмакі» кожны дзень былі —
Па бульбе
Бульба паганяла.

Таму —
Сухотных шмат было,
А я дык напаткаў жаўтуху.
Як я падняўся
На крыло?
Падзяка Богу
Й Святадуху.

Жыццё ідзе ў гару,
Ў гару,
І якасць у яго другая.
Я сёння ў рукі хлеб бяру
І памяць —
Ў тыя дні вяртае.

## Мала і жыцця

О край мой, сэрцу мілы,
Цябе люблю, твой сын.
Тут хмары рэжа крыламі
Адлётных птушак клін.

Тут вёсенкаю шчыраю
Іх рады бачыць зноў.
Вяртаюць птушкі з выраю
Табе сваю любоў.

О край мой, святавытканы
З дабра, святла, надзей.
З духоўнымі здабыткамі
Спагадлівых людзей.

О родны край, гасцінны,
Адкрыты для сяброў.
Я з галавой павіннай
Стаць прад табой гатоў.

Хоць думка сэрца грэе
Ля лёсу ля твайго —
Жыццё аддаў табе я,
Ды мала і яго.

Ў канцы восьмы дзесятак,
Як побач разам мы.
Я, да жыцця ў дадатак,
Кладу свае тамы.

## На лузе вечнасці

Я не апошні і ні першы,
Нібы пастух руплівы той,
Выпасваю па свеце вершы,
На лузе вечнасці святой.

Духоўны свет душу бязмежыць,
Абездухоўлены імжыць.
І вершы ад людзей залежаць —
Ці доўга жыць ім, ці не жыць.

Без прынудзілавак пастушых
Ўсе творы час у свет нясе.
І часткамі духоўных душаў
Яны ўсе стануць пакрысе.

## Падабенства і розніца

Каляднай ночы
з ноччу салаўінай
Не пераўнаць,
Як старасць-маладосць.
Не параўнаць
Калыску з дамавінай,
Хаця між імі
Падабенства ёсць.

Дзіця ў калысцы —
дарог жыццёвых многа,
Расці,
Жыві,
Любую выбірай.
Нябожчыку — апошняя дарога
Ў сваёй «калысцы» —
У пекла або рай.

Ёсць паміж імі розніца —
Без слова,
Не толькі ў тым,
Што паміж іх гады.
Дзіцятка —
У калысачцы часова,
Нябожчык —
Ў дамавіне назаўжды.

Зноў
Падабенства крайнасцяў адчулі
Праз калыханку —
Праўда, з гарчынёй:
Дзіцятку закалыхвае
Матуля,
Нябожчыка —
Магіла цішынёй.

## О словы! Думкі!

Вунь колькі слоў —
              чароды да край-свету,
А колькі думак!
              Значна больш, чым слоў.
Каб ссябраваць Богаўнікальнасць гэту
О колькі б свет убачыць мог тамоў!

О словы!
Думкі!
Нібы зоркі ў небе!
Як сонечныя промні ў лёсе год.
Іх спалучэнне —
У духоўнай глебе
Ўзыходзіць, нібы сонечны усход.

Ўсім гэтым чалавек хоць і ўладарыць,
Ды, часам,—
Словы й думкі, як дакор.
Ён так бяздумна словамі нахмарыць,
Што ні тамоў,
Ні сонца і ні зор.

## Гаёк ля хаты

Мае бярозы губляюць завушніцы,
Як слёзы, што губляю ў час бяды я.
Зіма мне сніцца,
Ну а ім што сніцца?
Яны яшчэ такія маладыя.

Гаёк ля хаты, майму сэрцу мілы,
Я састарэў,
А ты — у самай моцы.
Цябе садзіў, душы укладваў сілу,
Ты — дню насустрач, я насустрач ночы.

Я сёння тваім новым вёснам рады,
Са мной, магчыма, заўтра радасць згасне.
Мір вам, мае прыгожыя прысады!
І помніце мяне — дзень учарашні.

# Прымаю

Рассеяла жыццё гады-хвіліны,
Палоніць вочы захад, а не ўсход.
І п’е душа далёкія ўспаміны,
Якія для яе бліжэй штогод.

І вецер, перажытага калісьці,
То студзіць сэрца, то агнём пячэ.
Сціскаецца жыццё — з яго каб выйсці
Жывым… такóга не было яшчэ.

Ўспаміны не заліжуць сэрцу раны,
Якія назапасілі гады.
Прымаю свет сучасны, «саматканы»,
Бо ад яго не дзецца нікуды.

## Келля

Ні вокнаў, ні дзвярэй,
А толькі сцены й дах —
Я келлю збудаваў
З пустэльніцтва святога.
Я ў ёй, як свет людзей
Пакінуўшы манах,
Цікавіць — аніўто!
І аніхто не трэба.

Я й без таго аддаў
Пустому шмат жыцця,
Бясслаўна адышлі
Ў нябыт гады-тулягі.
У келлі  я адзін,
Са мною — толькі я,
І думкі ломяць столь,
І ломяць дах развагі.

За сценамі шуміць
Жыцця няспынны рух,
Усё, як і пры мне,
Як і пасля так будзе.
Я — да яго аслеп,
Я — да яго аглух,
Я — паза рухам тым,
А вы — жывіце, людзі!

## Таямніца

Я зусім не такі,
Як пры рэдкіх спатканнях.
А які я? Які?
Без адказу пытанне.

Сёння — сонца прамень,
Заўтра — горыч ад гора.
Зноў які будзе дзень?
Не такі, як учора.

Нашых лёсаў разгад —
Без разгаду спрадвеку.
Невядомага шмат
Для сябе ў чалавеку.

Бралі мы пакрысе
З усіх жніваў насенне.
Ў кожным якасці ўсе
Аж ад светаўтварэння.

Гляну я на бакі,
Ўсё імкнецца змяніцца.
Дык які я? Які?
Й для мяне таямніца.

## Як не хапае

Кожны старанна грабе пад сабе,
Ісціны зерне адсоўвае ў смецце.
Як не хапае, Купала, цябе,
Эх, каб ты быў, пачысцела б у свеце.

Нам бы цішэй быць найціхай вады,
Згода з няпраўдай, як пляма на праўдзе.
Мы ўсё лагодзім уладзе й тады
Нават калі гэта шкодзіць уладзе.

Ў творах Купалавых — праўды святло,
Нам яно душы асветліць нанова.
Першым усё ж такі слова было,
І не звычайнае — ісціны слова.

## Калі ласка

Хутка саду прыхатняга кіпень
Адбуяе, паблякне, міне.
А пакуль што чарговы ліпень
З юбілеем віншуе мяне.

Як і я, рады ён неспадзевам,
Што такі распачаўся дзень.
І пад кожным пяшчоціцца дрэвам
Прывітальны блакітны цень.

Пасцялю я абрус гасцінны,
Кожны будзе жаданы госць.
Калі ласка, сядайце чынна,
Ёсць што выпіць і закусь ёсць.

## Адначасова

Пакутаў нашых —
Чым далей, тым болей,
І сэрцу колка
          ад падзей асця.
О жах!
Не мог падумаць я ніколі,
Што можна так
          стаміцца ад жыцця.

Ды наша старасць —
          нашых душ ахова,
Канец жыцця мы можам
          ў нізцы год
Любіць і не любіць адначасова,
Прымаючы без слёз
          наш адыход.

## Ці ж вінаваты, што жыву?

Калі аб’еду ўсе магілы,
Дзе спяць бацькі, сястра, браты,
Вяртаюся ў такі нямілы
Свет і бязлюдны, і пусты.

Цяжар пякучых успамінаў
Да долу хіліць галаву.
Апошні брат жыццё пакінуў,
Яго няма, а я жыву.

Жыву жыццём я вінаватым
Невінаваты прад табой,
І перад мамай, перад татам,
Перад братамі і сястрой.

Ці ж вінаваты, што жыву я,
Што смерць канец мой не святкуе?

## Апошняя старонка

Сцвярджаюць, быццам рвецца там,
Дзе тонка,
Сушыць пустым не варта галаву.
Перада мной апошняя старонка,
Яе я дапішу,
А не парву.

І на апошняй, тоненькай паперцы,
У словах ёсць мінор
І ёсць мажор.
Да іх адкрыта прыхінаю сэрца,
Апошні раз
У мой апошні твор.

А быў жа калісь
Верш мой самы першы,
Яго ў сабе пранёс я праз гады,
Не здрадзіў я яму —
За ўсе ён вершы
Бліжэй мне — блазнюкова малады.

Я шчыра так пісаць ужо не здольны,
Ў палоне матэр'яльных перамен.
Ці ж можам параўнаць мы
Вецер вольны
З паветрам спёртым між кватэрных сцен.

Стаяў я калісь
Прад вялікім светам
З адкрытаю душой, амаль дзіця.
Між першым тым
Й апошнім вершам гэтым —
І проза, і паэзія жыцця.

Развагі,
Пошук,
Ісціна святая,
Прад чым я спасаваў,
Што перамог,
Усё, што меў,
Што за душою маю —
Уклаў у творы шчыра, бачыць Бог.

Не ведаю, ці шмат ад іх карысці,
Шматлікіх твораў, што пакіну я…
Усё, на жаль, канчаецца калісьці,
Як і старонка гэтая мая.

## Гукніце

Мае ссівелыя гады
Шукаюць сведкаў маладосці.
А іх згубіліся й сляды —
Памёр з іх нехта малады,
Пайшоў з жыцця нядаўна хтосьці.

Ад іх ні слова, ні рукі,
З кім па жыцці мы шыбавалі,
Майго маленства сябрукі,
Сябры памкненняў нашых сталых.

Я памятую школьны клас,
Аднапалчане, вас, вяскоўцы,
Ды па жыцці імчаўся час
Імгненна, як па стометроўцы.

Усе, з кім сябраваў я, вы
У памяці маёй нязменна.
І калі ёсць хто з вас жывы,
Гукніце — адгукну імгненна.

## «Вечна» і «нязменна»

Нібы вецер лістоту,
Імчыць мяне час
Ад світанку жыцця
Да бясконцае ночы.
Мне, сцяжынкі мае,
Не вярнуцца да вас,
Бо ніколі ніхто
Не народзіцца двойчы.

Ах, як сонейка грэла
Малечыя дні!
І, здавалася, будзе
Ўсё вечна й нязменна.
А цяпер тое «вечна»
Ў сумнай далечыні,
І «нязменнае ўсё» —
Ўсё змяніла імгненна.

Гаю мілы, не плач
Памінальнай слязой,
Калі больш не прыйду,
Не сумуй вельмі дужа.
Непахісны закон —
Век канчаецца мой,
Бо не вечна нішто
Й ты таксама,
Мой дружа.

## Рупліўцы

На досвітку звычайна
Не спяць працаўнікі,
Ды салаўі адчайныя
Й фанаты-рыбакі.

Празрыстым ранкам рупяцца
Сяляне ў час жніва
Й зязюлечка-вяшчуніца,
Ды грыбнікоў братва.

І ўсё ж да лыжкі цягнецца
Раней за ўсіх гультай.
Крычыць ён жонцы раніцай:
— Хутчэй паесці дай!

## Лёгкіх не бывае

Лёс ты мой, складаны лёс
(Лёгкіх не бывае),
Не гармонія — хаос,
Плынь жыцця крывая.

То ў душы праблем прыліў,
То на сэрцы хмурна.
Ўсё-ткі добра, што ты быў
Захапляльна-бурным.

Дні, хоць рэдка, ўсё ж былі
Поўныя заціша,
Нібы на усёй зямлі
Нежывая ніша.

І губляліся тады
Ўсе арыенціры.
Прэч вас, дні цішэй вады!
Лепей дні-задзіры.

Лепей з лёту, на хаду,
Біцца ў перашкоды.
Лепш я лёсу не знайду,
Чым быў мой заўсёды.

# Мне 77...

Мне 77… што ж, пражыў я нямала,
Мне 77… я і сёння жыву.
У лёсе і чорна, і бела бывала,
І ўсё ж я схіляю прад ім галаву.

Каб 77 мне было ў гэтым годзе,
Ў вайну маладзенькіх загінула шмат,
Якія бясстрашна па Ладажскім лёдзе
Пад бомбамі везлі жыццё ў Ленінград.

Якія з баямі прарвалі блакаду,
На розных франтах не лічылі атак —
У крэпасці Брэсцкай,
Ля сцен Сталінграду,
На Курскай дузе — і нарэшце Рэйхстаг.

І смерць, і жыццё час паклаў быў на шалі,
Стагнала зямля ад пакутаў і бед.
Не толькі мяне вы тады ўратавалі —
Радзіму сваю і — увесь белы свет.

Мне 77… Час мінае няспынна,
Паклон, пераможцы, вам наш да зямлі.
Вас шмат палягло ад Масквы да Берліна,
Каб жыць на зямлі й святкаваць мы маглі.

*2019*

## Адно выйсце

Жыве чалавек сабе — жвавы, жывы,
А вось галава «нежывая».
І рыбіна, кажуць, гніе з галавы,
Ды мала чаго не бывае.

Нібыта па месцы адным крапіва,
Мой верш гэты для безгаловых.
А вось у дзяржавы ўсё ж ёсць галава,
Каб жыць нам у лепшых умовах.

Затое культура ледзь-ледзь на плаву,
Адно толькі бачыцца выйсце —
Узяць бы ёй, ампутаваць галаву,
Яна на плячах без карысці.

## «Сапраўдная справа»

Тук-тук!
— Хто там?
— Я паэт,
Прапаную свае творы…
А праз дзверы мне сусед:
— Мог падумаць толькі хворы,
Што без вершаў клінам свет.—

Я спрабую яшчэ раз
Скокнуць з вершамі да неба:
— Я бязплатна іх для вас…
Зноў мне з-за дзвярэй адказ:
— Вершы й задарма не трэба.

Я — тук-тук! —
Назаўтра зноў
Да суседа стукнуў важка
І сказаў без лішніх слоў:
— Адчыняй!
Пагрэем кроў —
У мяне гарэлкі пляшка!

Пэўна, й Бог здзівіўся сам,
За дзвярыма — перамены,
Ўсё змянілася карэнна,
Бо сусед, як той Сезам,
Дзверы адчыніў імгненна.

Да грудзей мяне хіне
Усміхаецца ласкава,
Быццам сонейка ў акне:
— Ну, нарэшце да мяне
Ты прыйшоў з сапраўднай справай.

*

Шмат яшчэ дзвярэй у нас
І казённых,
І прыватных,
З-за якіх — адзін адказ,
Дзе не чулі пра Парнас,
А да пляшкі кожны здатны.

## Дульсінея мая

Нам дало у жыцці
Сустракацца не раз,
Я і жыў сярод вас,
У адзін з вамі час,
Я пісаў, я прыносіў,
Паказваў тамы —
Пазаўвагай я быў,
Размінуліся мы.

«Не заўважылі» вы
Відавочнае — што ж…
Ганьбіць значнае — грэх,
А хваліць — ў сэрца нож.
Вочы зеўрылі ўбок,
Анямелі раты —
Вось ён сумны урок
Слепаты, нематы.

Вы — як млын ветраны,
З ім змагаўся ў жыцці.
Майго лёсу званы
Вымагалі ісці.
Абяссілены я,
Ды не зломлены я.
Ў сэрцы творчасць мая —
Дульсінея мая.

## Не трэба

Няма смачней нічога,
Чым свой надзённы хлеб.
Чужога мне не трэба,
Яго не ведаць мне б.

Не трэба нечай ласкі,
Як на вадзе кругі.
Не трэба нават казкі,
Ў якіх канец благі.

Смерць прагне нас, як чыншу,
Закопвае ў зямлю.
Не трэба свет мне іншы,
Я гэты свет люблю.

Як дожджык жывіць глебу,
Так творчасць жывіць кроў.
Мне ворагаў не трэба,
Хапае мне сяброў.

## Не бывае...

Не бывае лёгкіх перамог,
Не бывае лёгкіх паражэнняў,
Лёгкіх у жыцці няма дарог,
Не бывае й творчасць без мучэнняў.

Так, жыццё дарункі ўсе свае
Не заўсёды ў весялосці родзіць.
Маці ў муках нам жыццё дае
І яны нам спадчынай прыходзяць.

## Падсвядомасць

Падсвядомасць…
Не заўсёды людзі
Чулі, што такая існуе́
Што з яе? Карысць ці шкода будзе?
Што чакаць аднойчы ад яе?

А яна затоена запасіць
Ўсё, што бачаць вочы, чуе слых.
І раптоўна можа нас «ашчасціць»
У двухкоссі, лепей бы без іх.

Мы ў сябе ўбіраем падсвядома
І хлусню, і праўду на ўвесь рост.
Вось чаму —
І лом мы супраць лома,
А, бывае, падціскаем хвост.

Продкаў мы ацэньваем, нашчадкаў,
І мінулы, і наступны час.
Ну а самі хто мы ёсць? Загадка!
Што там, недзе ў глыбіні у нас?

## Прытулак

Адзіны прытулак,
Жывуць дзе са мною сумесна,
Птушыныя спевы,
Адвечная песня лясоў,
Дзе погляду вольна,
Дзе сэрцу ніколі не цесна —
Зямля маіх продкаў
Мяне разумее без слоў.

На гэтым куточку зямлі,
Ад народзінаў родным,
Пачуў калыханку матулі
Малы ўпершыню.
Я тут адчуваю сябе
Неабходным і годным
Радзіме, адкрыўшай душы маёй
Мар вышыню.

Мы вынік падводзім аднойчы —
Хто позна, хто рана,
Адказна зірнуўшы
На пройдзены шлях з-пад рукі.
Апошні прытулак,
З табою нам наканавана
З’яднацца ў адно неразлучна —
І ўжо на вякі.

## Не тое і не так?

Не смерць палохае мяне,
Хоць і яна
Не на апошнім месцы сярод страхаў,
А тое, што Парнасу вышыня
Не для такіх, як я,
Бяскрылых птахаў.

А, можа, той Парнас —
Не больш, чым міф,
Неіснуючы ў вышыні захмарнай?
А я усё жыццё, як той Сізіф,
Свае тамы туды піхаю марна.

Я — ў верх, у верх,
А намаганні — на нулі,
А поспехі —
Як міражы ў пустыні.
Імкнуўся ў вышыню, а на зямлі,
Мяне чакалі творчыя вяршыні.

Не прычакалі…
Й горка ад таго,
Быў пік жыцця, хоць мой,
Ды безыменны.
І толькі фініш мой — імя майго,
І надпіс на крыжы: «Пражыў дарэмна».

*

Палохае мяне фінал такі —
Як кажуць,
Прэч з вачэй і з сэрца вон.
Й гады не захаваюць (не вякі)
Майго імя сярод другіх імён.

Якога ж д’ябла мітусіўся я!
Не даядаў,
Не дасынаў,
Не да…
Калі ўся праца творчая мая —
У нікуды, як праз пясок вада.

І гэта вельмі страшна для мяне —
Так, пэўна, родзіць страх
Лясам тартак.
Праз хуткі час маё жыццё міне —
Няўжо рабіў не тое
І не так?

## Апошняе слова

Узлёты, падзенні, вяршыні, дарогі,
Усё, што пражыў — за спіной.
З якіх бы трыбун я ні чуў маналогі —
Апошняе слова за мной.

Інтрыгі, нападкі, адкрыта, з засады
Гучалі фальшывай струной.
Прабачце, парады, законы, загады —
Апошняе слова за мной.

І толькі на могілках, пры развітанні,
Ў свой час над маёю труной,
Апошняга слова — другое гучанне,
Бо слова, на жаль, не за мной.

## Помста

Антось — кавалер, хоць куды,
На ўсю вёску.
Дзяўчат у якой —
Не злічыць было іх.
Ды сэрцам ён бачыў
Адну толькі Зоську,
Хоць вочы Антосевы
Бачылі ўсіх.

Хто быў малады,
Кожны марыў аб шлюбе,
Бо й хлопцаў у вёсцы
Было не злічыць
Збіраліся шумна
Ў нядзельку у клубе,
Спявалі і танчылі —
Жыць значыць жыць.

Усе між сабой
Зацікаўленасць мелі,
Праз погляды,
Жарты,
Ўздыханні,
Намёк.
Тут хтосьці кагосьці
Трымаў «на прыцэле»,
А хтосьці да шлюбу
Рабіў першы крок.

З тых «першапраходцаў»
Карціла Антосю
Быць першым між першых,
На зайздрасць усім.

Хацеў ён за жонку
Узяць сабе Зосю
Вуглом абзавесціся
Марыў сваім.

Ды маці паўстала,
Уторыў ёй бацька:
— Ад слыхаў упартых
Не дзецца нідзе,
Яшчэ семразова
Адмерай, дзіцятка,
Пра Зоську па вёсцы
Гамонка гудзе.

Ці будзеш ты, сын,
Ёй ад Бога каханым,
Ці лаянка будзе
Між вамі і крык?
Збіралася ж Зоська
Да шлюбу з Сцяпанам,
Ды ён нечакана
Скруціўся і знік.

Пра гэта Антось ведаў сам,
Як і кожны,
Пра ўсіх ведаў лепей,
Чым справы свае.
Антось,
Хоць разважлівы быў,
Асцярожны,
Ды Зоську кахаў —
Клінам свет без яе.

Дзе два ёсць, вядома,
Што лішні там трэці,
На сэрцы у Зосі
Сумненняў пячаць.
А дзе той Сцяпан?
Дзесь бадзяецца ў свеце,
А ёй што?
У дзевах старых кукаваць?

А тут ёсць Антось,
Запрашае да шлюбу,
Ў яе да яго —
Некахання сцяна.
Антось хоць станоўчы,
Ды зніклага згубу —
Сцяпана употай
Кахала яна.

Такія адвеку
Дзявочыя лёсы,
Якія у многім
Хлапечых не горш.
Іваны,
Дзям'яны,
Сцяпаны,
Антосі —
Надзелі штаны,
Вось і ўвесь іхні форс.

Ды добра, калі у штанах,
Ды цвярозы,
А іншы без меры
Мазгі адап'е.

З такім паспявай
Выціраць толькі слёзы,
Дык мала таго —
Ізгаляецца, б’е.

Усё пракруціла
Ў мазгах сваіх Зося —
Ды чорт з тым каханнем —
Зноў лёсу пячаць.
Антось гаспадарлівы,
Супраць Антося
Язык не павернецца
Слова сказаць.

*

І вось урачыстасць
Вяселля святога!
Які гэта клопат
І гонар бацькам.
Вянчанне ў царкве
І ухвальванне Бога —
Абрад традыцыйны,
Вядомы вякам.

А коні якія!
Гарачыя коні!
Нібыта анёл іх
На крылах панёс.
За многія вёрсты
Чуваць быў гармонік,
А шчасце было на ўвесь свет,
Да нябёс.

Званочкі з дугі
Заліваліся звонней
За ўсе што ні ёсць
Божых Храмаў званы.
І вецер адстаў
Ад акрыленых коней,
Ад шлюбам народжанай
Гэтай вясны.

Вяселле —
Падзея падзеяў у лёсе.
Ледзь стрымліваў
Свята пачуццяў Антось,
Была засяроджана-стрыманай
Зося,
Нібыта сыйшла
Ад яе маладосць.

Сцяпан у мінулым,
Яму гора мала,
І позна вышукваць,
Чыя тут віна.
Паколькі ў царкве
Яна крыж цалавала,
Прад Богам
Антосева жонка яна.

А коні якія!
Не коні — маланкі!
Адкуль толькі браліся
Сілы у іх?
Нібыта сюды,
Да вясельнага ганку,

Сам Бог ад царквы
Прыімчаў маладых.

А тут сустракаюць
Бацькі урачыста,
Глынуўшыя, пэўна,
Не раз валідол.
І шумна, пад акампанемент гарманіста,
Ўсе рушылі
За маладымі за стол.

Застольны канон —
Традыцыйны і просты,
Ў асноўным адно —
Каб сямейны быў лад,
Дарункі гасцей,
Віншавальныя тосты,
І «горка» — дзе трэба,
А дзе — неўпапад.

Вяселле адкрыта для ўсіх,
Не ў сакрэце,
Ўся вёска тут зычыць
Дабра маладым.
І як жа без іх?
Тут падлеткі і дзеці
Ля вокнаў расчыненых
Сочаць за ўсім.

Кілішкі звіняць за сталамі,
Гаворка,
І жарты,
І песні,
І крыкі — «Да дна!»

Раптоўна штосілы,
Хтось выгукнуў: «Горка!»
З-за спін маладых,
Са двара,
З-за акна.

Вясельны сціх тлум,
Госці быццам абмёрлі,
Антося —
У жудасны кінула пот.
Застылі усе,
Нехта з закуссю ў горле,
А нехта,
Гарэлкі набраўшы у рот.

Стаяў за акном
Той, хто знік нечакана,
І гэтак раптоўна
З'явіўся ізноў.
Як прывіда
Ўбачыла Зося Сцяпана —
Ударыла ў сэрца
Гарачая кроў.

Ускочыла Зося,
Нібыта ў тумане,
Яна цяпер бачыла
Толькі адно.
Амаль беспрытомная,
З крыкам: — Сцяпане!
Падраненай птушкай
Далася ў акно.

*

О лёсы людзей…
Чалавечыя лёсы…
Не першы я
Гэтую тэму трасу.
Вы скрыўлены,
Як ад няўмекі пракосы,
Які ўпершыню
Ўзяў у рукі касу.

Бывае, што гнуты пракос
Не удасца
Ні выправіць
І ні пракласці наноў.
Вось так і пакутуем
З нечае ласкі,
Ў абдымках сваіх
Неласкавых гадоў.

*

Антось успрыняў
Сэрцам тое балюча,
Калі Зося збегла
З другім з-за стала,
Схапіўшы прылюдна
Па мызе анучай,
Хоць пляма той ганьбы,
На Заську лягла.

Антось вольны час
Ў адзіноцтве марудзіў,
Не мог з галавы
Выгнаць думак слату.

Цяпер лішні раз
Не выходзіў на людзі,
А Зосю зусім
Абмінаў за вярсту.

Заглыбіўся ён у сябе і замкнуўся,
Пакутваў штодня
За чужую віну.
Аднойчы Сцяпан
Штосьці мовіць памкнуўся,
Антось прэч пайшоў,
Паказаўшы спіну.

А час, ён карае,
Ды ён жа і лечыць,
І краскі цвітуць,
Перажыўшы зіму.
Антось апрытомнеў
І выпраміў плечы,
Гады маладыя
Спрыялі яму.

Сям’ю збудаваў ён,
Спаткаўшы каханне,
Адчуў, як раней,
Ад жыцця дабрыню.
Ўздыхнуў ён мінуламу
На развітанне,
Затым усміхнуўся
Наступнаму дню.

*

Шыбуе жыццё —
Ці смяёмся, ці плачам,

Не будзе ж на нас
Азірацца яно,
На нашы удачы,
На нашы няўдачы,
Тым больш на падзеі,
Былі што даўно.

Жыццяне дагнаць,
Калі час быў праспаны,
Такое не ведаць
Лічылі за грэх
Ў сям'і у Антося,
Ў сям'і у Сцяпана,
Ім узнагародай
Дзіцячы стаў смех.

Іх час прымірыў,
Ўтаймаваліся крыўды —
Канчаецца ноч,
Надыходзе святло.
Зноў сэрцы
Для добрага слова адкрыты,
Між імі нядобрага —
Як ні было.

І дзеці бацькам
Наступаюць на пяты,
Было так і будзе —
Старэюць бацькі.
У Зосі з Сцяпанам —
Дачушкі-дзяўчаты,
У Крысці з Антосем —
Растуць дзецюкі.

Гады —
То уверх, то уніз,
Як арэлі,
Як бурная плынь
Незнаёмай ракі.
Зноў некага хтосьці
Трымаў «на прыцэле»,
А нехта да шлюбу
Імчаў напраcткі.

*

Старэйшы з Антосевых хлопцаў,
Мікола,
Прыгожы —
Як кажуць, здалёку відаць.
Аб шлюбе не думаў ён,
Скончыўшы школу, —
Спачатку ў салдаты, а там…
Што гадаць?

Быў ён, у дарозе да мэты,
Настырны,
Да гэтага —
Хлопец ні курыць, ні п’е.
Яго называлі
Валетам казырным
Якога, пры выпадку,
Туз не паб’е.

Пра бацькаву,
Першага шлюбу асечку
І вухам не чуў,
Пра падзей даўніну.

Ды доўгі язык нечы
Вымеў з-за печку,
Як смецце, пра продка канфуз —
Навіну.

І ў вушы Міколу увёў,
Як атруту,
Запоўніўшы гэтым
Пляткарства прабел.
І хлопец
Мяняе паводзіны крута,
Й раптоўна
Алену «бярэ на прыцэл».

Алену,
Дачушку Сцяпана і Зосі,
Раней да якой,
Зацікаўленасць — нуль
«Адкуль што раптоўна
У хлопца ўзяліся? —
Гадалі бацькі двухбакова, —
Адкуль!»

Алена — ў разгубе,
Бацькі — ў хваляванні.
Праз тэрмін кароткі,
І болей таго —
Мікола Алене
Прызнаўся ў каханні…
(Ідзі разбярыся тут,
Што да чаго.)

Тым больш, што была
Для разгубы прычына,

Бо бачылі ўсе,
І Алена не раз —
У сэрца Міколу
Другая дзяўчына
Заскочыць хацела,
Чакала свой час.

Вучылася
Разам з Міколам Таццяна,
За партай адною
Сядзелі яны.
Тады мець свякруху
І ёй было рана,
Да цешчы і ён
Не спяшаў на бліны.

А сёння —
Чаму бы і не?
Паўналецце!
Чаму б не памарыць
Таццяне тайком?
Ці ж мала ёсць
Маладажонцаў у свеце,
Якія са школы —
У ЗАГС праміком.

*

Мікола з Таццянаю
Вёў сябе роўна,
Размовы нейтральныя —
Тое ды сё.
Ён зваў яе жартам —
Таццяна Пятроўна,

Павагу падкрэсліваў гэтым —
І ўсё.

Хаця заўважаў
Прыгажосць яе, зграбнасць
І іншыя якасці —
Сціпласць,
«Без мух».
Ці ж мала дзяўчат ёсць у вёсцы
Прывабных?
А ў свеце іх колькі!
Захопіць аж дух!

Паспеецца выбраць.
Ўсяму свае святы,
Надыдзе той час,
Калі ўсё па плячу, —
Так думаў ён,
Халасцяковец заўзяты,
І раптам узрушыўся:
— Мама і тата!
Усё я узважыў —
Жаніцца хачу!

Збялелі бацькі,
Як ад весткі страшэннай:
— З кім, сынку?!
О Божа!
З кім зблытаў сынка?
Мікола спакойна агучыў:
— З Аленай!
Вядомых
Сцяпана і Зосі дачка.

— Якая Алена? Якое жаніцца? —
Узвылі бацькі, паглыбляліся ў шок. —
О праведны Божа!
Святая Царыца!
Ты ж восенню
Ў армію пойдзеш, сынок!

Мы супраць Алены
Не маем нічога,
Але ў тваім сэрцы
Не бачым яе.
А ў сэрцы без любай
Шмат месца пустога —
Ды кінь ты, Міколка,
Задумкі свае!

Мікола ж стаяў на сваім,
Хаця маці —
У слёзы, у крык
І да Бога ізноў.
— Вяселлю ўсё ж быць!
І ў Сцяпанавай хаце!
Апошні мой сказ —
Засылайце сватоў!

*

Зноў коні імчалі з царквы,
Нібы вецер,
Ды вецер адстаў сарамліва —
О здзек!
Алена была
Найшчаслівай у свеце,
Яна неўспадзеўкі
З Міколам навек.

Уцерла ўсім нос,
Асабліва Таццяне,
Вось гэта узлёт!
Шанцавання узор!..
О коні-маланкі!
Як прывіды, здані!
Былі толькі тут —
А ўжо хата і двор.

І зноў каля ганку
Бацькі рытуаляць,
Усё, як калісьці,
Паўторна цяпер.
І за маладымі
Ў застолле ўсе валяць,
Каб зычыць,
Адорваць,
Заліць за каўнер.

Шчаслівыя Зося,
Сцяпан і Алена,
Крысціна з Антосем…
А як малады?
І ўсё-ткі Антось,
Нібы весткі страшэннай,
Вяселля чакаў
Ў прадчуванні бяды.

Ён сэрцам адчуў —
Сын задумаў благое,
З зусім некаханай
Да шлюбу йдучы.
І змрочныя думкі
Тыранілі роем

І сэрца, й душу,
І жыццё, хоць крычы.

Раптоўна у памяці
Ўсплыў шлюб ягоны,
Калі за сталом
Ён застаўся адзін.
А што, калі
Кроўнаю помстай натхнёны,
Паўторыць
Ганебную выхадку сын?..

Антося вярнула
Ў рэальнасць застолле,
Дзе быў маладымі
Асветлены кут,
Кілішкавы звон
Мітусіўся пад столлю —
Антось апрытомнеў:
Навошта я тут?

Тут гаркнулі госці
Вядомае «Горка!»,
А хтось закрычаў:
— Пасля «горка» да дна!..
Ці ўзыйдзе над шлюбам
Шчаслівая зорка,
Ці хліпне нясмела
І згасне яна?

Зноў «горка» гучала,
Як заклік вясёлы,
І «горка» адчула
Сябе ў цеснаце.

Алена
Крутнула свой твар да Міколы
І стала ля мужа
Ў вясельнай фаце.

Падняўся й Мікола —
Два твары насупраць,
І зычна сказаў,
Каб пачулі усе:
— Няхай будзе горка!
Я сёння не супраць!
Няхай яно нам
Асалоду нясе!

Крычыце мне «Горка!»,
Бо я закаханы,
Таму маё сэрца
Салодкае п’е.
Затым падыйшоў да гасцей,
Да Таццяны
І моцна абняў
З пацалункам яе.

— О як жа салодка з табой,
Мая панна! —
Усклікнуў Мікола,
Наліўшы праз край. —
Дык вып’ем і пойдзем
З табою, Таццяна, —
Бывай, невясёласць вяселля!
Бывай!

*

Што можа быць горай —
У вёсцы быць госцем,

Калі людзі пальцамі
Пораць услед?
Такое адчулі
Крысціна з Антосем,
І сын іх Мікола —
Казырны валет.

Бацькі на Міколу
Усселі адразу ж:
— Ты Лену ўчарніў
Без ніякіх прычын,
Сцяпана і Зосю,
Сям’ю іх зняважыў,
Ды больш за каго,
Ты зняважыў нас, сын.

Ты здзекамі,
Нібы нагамі узлазіў,
На сэрца дзявочае —
Ганьба, сынок.
Ты святасць —
Царквы благаславенне абразіў.
Ці ж можна такое ўтвараць?
Як ты мог?

Мікола прыцішана
І асцярожна
Агучыў,
Нібыта ў былое пароль:
— А ім!
Ім абразіць цябе
Было можна?
Няхай яны, тата,
Адчуюць твой боль.

Антося падкінула:
— Во пакаранне!
Ды Зося іначай
Зрабіць не магла!
Бо ёю тады
Кіравала каханне —
Ці ж птушка у неба
Ўзляціць без крыла?

Няправільна —
Жыць паасобку каханым!
Ўсвядомь гэта,
Сынку,
Міколка,
Дзіця.
Я быў бы між імі,
Між Зосяй, Сцяпанам,
Пакутай ганебнай
Да скону жыцця.

Уставіла маці:
— Дзе сорам свой дзену?
Затым уздыхнула:
— Эх сын-абалдуй…
І чым жа Таццяна
Так лепш за Алену?
Й Алена нябрыдкая —
Вочы разуй.

Мікола, відаць было,
Думкамі крочыў
Туды, дзе вянчанне было,
Ў Божы Храм.

— І мне, мама,
Сорамна глянуць у вочы
Алене,
Вяскоўцам,
Бацькам яе,
Вам.

Я й сам зразумеў,
Што Алена не горай
За Таню,
За іншых вясковых дзяўчат.
Душа у яе,
Як вясна, прад каторай,
Любы́ расцвіце,
Нібы траўневы сад.

І погляд яе
Маё сэрца узрушыў,
Ласкавыя вочы —
Як зоркі яны.
А я сябе помстай
Учора раз’юшыў,
Распусце даў волю,
Які я дурны!

А Таня…
Разлік мой
Для помсты быў тонкі.
Яна…
Пацалунак…
Мая ўсё віна…
Абняў бацька сына:
— Ідзі, сын, да жонкі,

Ідзі, павініся —
Даруе яна.

*

Стаптанае шчасце,
Разбітыя сэрцы,
Як водгук падзей,
Адгучаўшых даўно…
Жыццё — не паяц,
А чаму ж так смяецца
Над жорстка разбітым
Каханнем яно?

Нярэдка,
Заблытаных лёсаў разора —
І колас пад корань,
Не толькі траву…
Мікола па вёсцы вяртаўся
Ва ўчора,
Да жонкі
Павінную нёс галаву.

*2018*

## Час трагічны самы

*Паэма напісана на аснове*
*архіўных дадзеных з захаваннем*
*сапраўдных падзей і прозвішчаў.*

Так мала напісаў
Я пра вайну,
Пра час для нас усіх
Трагічны самы.
Я й сам прайшоў
Вярсціну не адну
Праз жах і страты
На руках у мамы.

Хапіла маме
Страху і бяды,
Аблепленай
Дзіцяткамі малымі.
Мы з вёскі нашай,
Спаленай тады,
Насілу
Ўратаваліся жывымі.

Чакаў нас новы жах
На Паліку,
Там смерці, у гэным пекле,
Было ўтульна.
Ці ж толькі мы?..
Не быў ніхто
Ў баку
Ад жудаснай
Трагедыі агульнай.

Таму развага будзе
Не пра нас,
Вярнуўшыхся
На папялішча хаты.
Лёс брата Колі
Хваляваў ў той час,
Яго, непаўналетняга,
І таты.

Пра тату ведалі,
Што ён вайны салдат,
Быў полк яго
Сто шэсцьдзесят дзевяты.
Прызваў Лагойскі
Райваенкамат
Яго тады
З вяскоўцамі ў салдаты.

Хоць гэта ведалі —
Усё ж лягчэй,
А што ўж выпадзе
Яму на долю…
І слёзы не канчаліся
З вачэй
У мамы за яго,
Ды горш за Колю.

Яго —
Непаўналетняга, пакуль,
Схапілі немцы
І пагналі ў рабства.
І невядомасць —
Горш варожых куль,
Спраўляла баль
Фашыстаў святатацтва.

Дзе ты, сыночак,
Ці жывы,
Ці не?
Ці вернешся
З варожай той бярлогі?
І мама слала
Свой праклён вайне,
І ўсё прасіла
Дапамогі Божай.

*

У Мінск зганялі
Моладзь адусюль,
Прыкладамі з размаху
Білі ў спіны.
У сэрцах у арыйскіх
Жалю нуль,
З іх сквапна пазіраў
Ашчэр звярыны.

Ў дзяўчат-падлеткаў
Выгляд быў такі,
Нібыта хтось
Сарваў у лузе кветкі.
Але сціскалі
Помсты кулакі
Нязломленыя
Хлапчукі-падлеткі.

А Коля ад усіх
Крыху ў баку
Стаяў, як большасць хлапчукоў —
Рашуча,
З адною толькі думкай:
«Уцяку!

Як я задумаў, будзе,
Гад смярдзючы!»

Мацнеў, а не сціхаў
Бяды набат,
З усіх бакоў
Штурхаў канвой шалёны.
Міколу,
Хлопцаў,
Маладых дзяўчат,
Загналі ўсіх
Ў цялятнікі-вагоны.

*

А колаў стук,
Як нейкі тайны код,
А думкі…
Думкі…
Хто мне дапаможа?
Няўжо свае я
Васемнаццаць год
Сустрэну на нямеччыне
Варожай?

І Колю стала жудка,
Хоць крычы,
Сярод такіх, як ён,
Бітком набітых.
Зноў думка пеканула:
Уцячы!
Ды як?
Няма тут шчыліны, лічы,
Ў вагонах-«люкс» для зэкаў,
Знакамітых.

З хвілінай кожнай,
Паднявольным ім,
Да рабскай невядомшчыны
Ўсё бліжай.
І кожны ўпотай думаў
Аб сваім,
І ўсе агульна —
Аб адным і тым жа.

І раптам —
Сярод жаху,
Думак,
Мар,
У гэтым спёртым,
Нежывым паветры,
Нібыта Бог дыхнуў
Хлапцу у твар
Адчуў аднекуль Коля
Свежы ветрык.

Ён азірнуўся пільна і —
Ого!
І ці ж магло
Не страпянуцца сэрца?
У самым версе
Вабіла яго
Крыху шырэй за шчыліну
Акенца.

Што першае
Хацеў зрабіць хутчэй —
Бліжэй!
Бліжэй да «волі»
Ірвануцца.

Але з усіх бакоў,
З грудзей,
З плячэй,
Яго сціскалі целы —
Не крануцца.

Мікола крыкнуў:
— Хлопцы, вунь акно!
Вунь неба ў ім!
Вунь неба нас праводзіць!
Мне б збегчы!
Збегчы!
На душы адно.
Хтось горка хмыкнуў:
— Вузкае яно.
І нам бы збегчы —
Марыць не пашкодзіць.

— Акно здаецца
Вузкае адсюль!
Ды я пралезу! —
Гарачыўся Коля.
Зноў хтосьці хмыкнуў:
— Не баішся куль,
Праціснуўшыся
Галавой на волю?

Ты, хлопец,
Не імкніся да бяды,
За кулі і за смерць
Спрытней няўжо ты?
Як заганялі нас
Сілком сюды,
Ты бачыў
На вагонах кулямёты?..

Ён ацаніў
Акенца вузіну:
— Я не прымаю
Засцярогаў ны́цце.
Я ўсё-ткі паспрабую,
Рызыкну —
Дапамажыце ўзлезці,
Падштурхніце.

Узрушыліся ўсе
Раптоўна тут,
Нібыта ўраз адкінуты
Сумненні,
Нібыта ён паможа
Здзейсніць цуд
І дасць ім волю,
Дзёрзкі летуценнік.

Рабілі піраміду
З гнутых спін,
Не заўважалі
Пот і боль —
Нічога.
Няхай бы збег хоць ён,
Хоць ён адзін,
І ў тым —
Усіх астатніх перамога.

Калі з акенца
Плюхнуў ён, як куль,

* Давидович Николай Федорович в партизанский отряд им. 25-летия ВЛКСМ бригады им. маршала СССР Жукова прибыл добровольно, сбежал с поезда при отправке на работу в Германию, на участке ж. д. Барановичи – Брест. *(З архіўных дадзеных)*

Калі клубком каціўся
Ўніз балюча,
Не чуў над галавою
Енку куль,
Бег у гушчар,
Абламваючы сучча.

Нарэшце,
Абяссілены на мох
Зваліўся,
Як падсечанае дрэўца.
Не толькі бегчы,
Дыхаць ледзьве мог,
Лягло на цела
Сто пудоў, здаецца.

І раптам
Аж падкінула яго,
Адкуль яны ўзяліся
Толькі сілы.
Не толькі цела
Ён не чуў свайго,
Яго душа цяпер
Адчула крылы.

Я не ў палоне!
Вольны я!
Я збег!
Жыццё яго
Уздым пачуццяў поўніць.
О гэты тайны,
Лёсаў абярэг,
Не кожнага ён
Ад бяды заслоніць.

І раптам,
Успаміну горкі чад
Рэальнасцю абдаў
Няўмольнай Колю.
Успомніў ён
Тых хлопцаў і дзяўчат,
Якіх цяпер імчаў
Цягнік ў няволю.

І ён адчуў
З асобай вастрынёй
Іх страшны лёс,
Сам будучы на волі.
Дый лёс зямлі,
Апалены вайной,
Стаў дарагі для сэрца,
Як ніколі.

На волі сам?
Якая ж воля тут,
Калі вакол
Варожая аблога?
Ўся Беларусь
І сэрцу родны кут,
Вы пройдзеце
Праз безліч страт,
Пакут —
Праз барацьбу
Да вольных дзён дарога.

А што цяпер?
Як рушыць супраць зла?
Куды ён пойдзе,
Дзіўна ўратаваны?

І зноў надзея
Сілы надала —
Дык вось жа лес!
Дзе лес — там партызаны!

*

Туляўся Коля дзень і два,
Гублялася надзея,
Знікалі сілы без яды,
Жахліва хлапчуку.
Яго наведваць стаў адчай —
Куды падацца?
Дзе я?
А партызаны? Дзе яны?
Ў якім яны баку?

Аднойчы, стомлены ушчэнт,
Апоўдні у пякучай,
Сагнуўся на калені, каб
Напіцца з ручая,
Ды хтосьці гаркнуў за спіной,
Знянацку і рашуча:
— Стаяць!
І рукі угару!
Інакш страляю я!

Убачыў Коля малайца,
З вінтоўкай, пры парадзе,
Ён пільна й строга паглядаў
І ў вочы, і ў бакі,
Які аднекуль да яго
Цішком падкраўся ззадзі,
Чуць што — не будзе жартаваць
З затрыманым такі.

Устаў з каленяў Мікалай
І стаў, падняўшы рукі,
Ён зразумеў, што напаткаў,
Якраз шукаў каго.
Што партызанаў адшукаў,
Прайшоўшы пекла мукі,
Што мара здзейсніцца, яна —
Вось, на шляху яго.

У Колі слёзы на вачах,
Камяк у горле душыць,
Аказваецца й радасны
Ў жыцці бывае шок.
І ён не мог стрымаць сябе,
І крыкнуў на ўсе вушы:
— Я вас шукаю, партызан!
Я свой!
Я свой, браток!

— Маўчаць! — пачулася ў адказ,
І зноў нязменна строга.
І Коля рады, што пачуў ён
Строгасць, а не злосць.
— Вас шляецца па ўсіх лясах,
Такіх сваіх тут многа,
Ану-ка тупай весялей,
Праверым, хто ты ёсць.

Нарэшце, партызанскі стан —
Зямлянкі,
Людзі,
Коні,
Хтось чысціць зброю,
Хтосьці курыць
Ці пад нос пяе.

І сэрца радасны салют
Ударыў Колю ў скроні —
Ён свой цяпер сярод сваіх,
Тут родныя, свае.

Але ад самых першых слоў
Адчуў ён незгамоннасць,
І ўсё, аб чым расказваў ён,
Ляцела бы ў сцяну,
Ў сцяну халодных поглядаў,
Ў глухую падазронасць,
А ўцёкі з поезда яго,
Лічылі за ману.

Была у СМЕРШа мэта мэт —
Прадухіліць звышстраты,
Ад дырэктывы ад сваёй
Не адхіляўся ён
Лепш знішчыць, хай сабе і сто,
Зусім невінаватых
Калі схаваўся паміж ста
Хаця б адзін шпіён.

І нішчылі, бо той шпіён
Мог паўплываць на бітвы,
Ў якіх загінала б не сто,
А тысячы салдат.
Таму ў вайну быў не адзін
Сваімі свой забіты,
Хто даказаць ніяк не мог,
Што ён не вінават.

Вось так забітая была
Пасля дазнанняў жорсткіх,

Бо падазронасць ад сябе
Яна не адмяла —
У дзевятнаццаць год сваіх
Дзяўчына-патрыётка,
Смерць за патрыятызм —
Такая вось цана.

І зноў з-за дырэктывы той
Яе закатавалі,
Суровы гэта быў закон
Ваеннае пары…
Ляжалі доўга костачкі
Ад той Кухцінскай Валі*
На сумным мху пасля вайны,
Ў Карпілаўскім бары.

І тут, над Колею павіс
Закон вайны суровы,
Хоць кулакамі ў грудзі біў —
Ці злітуецца СМЕРШ?
І тут не верылі яму,
Бо словы — толькі словы,
Наплесці можна шмат чаго —
Ў душу не зазірнеш.

Прысуд быў жорсткі:
— Расстраляць!
Без іншых варыянтаў!
(Вось ты і свой сярод сваіх…

* У 1943 г. у Карпілаўскім бары была расстраляная партызанамі па падазронасці ў шпіянажы Кухцінская Валя, якая з Мінску падалася ў лес да партызан змагацца з ворагам.

*(З архіўных дадзеных).*

Тут вечны твой прычал…
Адпомсціў і адваяваў ты
Супраць акупантаў,
Змяніўшы рабства на такі вось,
Жудасны фінал).

І тут над Колем меч павіс,
На жаль, несправядлівы,
Не адкруціцца ўжо яму
Ад крыўднага канца.
Але не толькі ў казках ёсць —
І тут канец шчаслівы,
Які ў апошнюю хвіліну
Напаткаў хлапца.

Ішоў ён моўчкі на расстрэл,
За ім канвой суровы,
А тут насустрач партызан,
Бывалы, пры вусах.
Да Колі, нібы праз туман,
Даносіліся словы:
— Спыніце, хлопчыкі, хаду!
А гэта што за птах?

— Вядзём шпіёна мы…
Ў расход… —
Сказалі канваіры.
Зірнуў бывалы партызан:
— Я бачыў яго дзесь…
Скажы мне, хлопча, пра сябе,
Ды хуценька і шчыра —
Адкуль ты?
Прозвішча тваё?
Ды у ману не лезь.

Усё назваць, як на духу,
Быў Коля вельмі рады,
І навакольных вёсак шмат,
І прозвішчы,
Й калгас.
— Дык сам я, хлопча, з вёсачкі
Вялікія Бясяды,
А ўжо Карпілаўка твая,
За пяць вярсцін ад нас.

А часам ты не гарманіст?
Тут Коля расхрабрыўся:
— Ды вечарынкі я іграў
Па нашай старане.
Было — ў Бясядах адзін раз
Я лішняга напіўся,
Ледзь не парэзалі хлапцы
Тады гармонік мне.

*

Вось дзіўны выпадак, які
Жыцця, бясспрэчна, варты,
Падзеі неслі юнака,
Нібыта снежны ком.
І ён, насуперак вайне,
Да мэты йшоў упарта —
Ён быў залічаны ў атрад
І стаў падрыўніком.

Наступным днём адразу ў бой
Ля вёсачкі Каледзіна,
Тут страх адчуў ён першы раз
І на спіне мароз,
Але убачыў, гіне як

І уцякае гадзіна,
Тут быў захоплены тады
З трафеямі абоз.

Праз колькі дзён быў цяжкі бой
Ля вёсачкі Засулле,
Разбіты быў у гэты дзень
Нямецкі гарнізон.
Тут атрымала па зубах
Фашысцкае разгулле,
І Коля — з карабля на баль —
Жыццё, як дзіўны сон.

Але ж ён быў падрыўніком,
Лічыўся дзёрзкім, лоўкім,
Чыгунку схаланаў падрыў,
Як памінальны звон.
Тут ён і Ліс,
Пятроў і Смоўж —
У групе Дубатоўкі,
Ля Коласава спецсастаў
Пусцілі пад адхон.

А на шашы, што йшла на Мір,
Зноў падрыўное крэда
Дэманстравалі немцам зноў,
Бясстрашныя яны.
Тут Абламейка, Коля, Войніч —
Група Маламеда,
Ў паветра ўздыбілі аўто,
А ў ім — бітком чыноў.

Былі баі амаль штодня
І дзейнасць падрыўная,

Яны амаль аднолькавыя
Й розныя былі.
І было бачна, што вайна
Праклятая канае —
Прагналі немцаў з Беларусі,
З роднае зямлі.

І Коля з гонарам ішоў
Па вуліцах сталічных,
Сярод такіх жа партызан,
І іх вітаў народ.
Было удзельнічаць тады
Ў парадзе гістарычным
Не толькі гонар баявы —
Ўзнагарода ўзнагарод.

*

Пайшоў мой брат даўно з жыцця,
У маладым узросце —
Кантузіі, раненні,
Не прайшлі яны дарма.
Сустрэў вайну калісьці ён
У ранняй маладосці,
Яна прыйшла пазней за ім,
Як ранняя зіма.

Якія сціплыя яны,
Падзей ліхіх салдаты,
Іх не распытваў я ў свой час,
Цяпер сябе кляну.
Не чуў ні разу я пазней
Ад брата ці ад таты
Пра фінскія баталіі
Й Айчынную вайну.

І сёння горка й сумна мне,
Й па-свойму я шчаслівы,
Бо сэрцам я і памяццю
Паглыбіўся ў той час.
І як жа добра, што жывуць
Жыццём падзей архівы,
Жывуць жыццём і тых людзей,
Пакінулі што нас.

І сёння ў Беларусі ўсіх —
Жывых і мёртвых славяць,
Тых, хто Радзіму ўратаваў,
Глынуў пакутаў шмат…
Ды не патрапілі яны
Ў святую кнігу «Памяць»,
Хаця прайшлі цераз вайну,
Ні тата мой, ні брат.

*2019*

## Святая ісціна

Адна адной
Сяброўкі кпілі дужа,
Ды на каго!
Ды на мужоў сваіх!
— Не ведаю,
Як жыць далей мне з мужам,
Па часці рэўнасці,
Ў мяне ён проста псіх.

Ад выбрыкаў яго
Цярплю пакуты
Штодня, нібыта
Жыта ад сярпа.
Такое мне каханне —
Горш атруты,
Ён прыраўнуе
Нават да слупа.

— Зайздрошчу я табе! —
Другая кажа, —
Твой лёс,
Як рамантычнае кіно.
А мой, як кажуць,
Ні прадзе, ні вяжа,
Ёсць я ці не,
Яму — усё адно.

Вось у мяне дык,
Не жыццё каранне,
Тут іншы серп,
Не менш балюча жне.
Баюся —
Ці ні выстыла каханне.

У яго сэрцы
Раптам да мяне.

— Ты вось што! —
Раіць першая сяброўка, —
Дарэмна мужа
Не чарні свайго.
Ты ж можаш хітранька
І вельмі лоўка
Праверыць —
Што на сэрцы у яго.

Прыкінься ноччу соннай —
І нібыта
Ты бачыш нейкі
Сексуальны сон.
Уголас
Сон распавядай, адкрыта,
Каб муж твой чуў.
Як зрэагуе ён?

Не зварухнецца ён,
Не зрэагуе,
І як палена,
Ля цябе ляжыць —
Лічы, што недзе
Мае ён другую,
Й каханне загадала
Доўга жыць.

Ну, а калі
Падскоча аж да столі,
І з крыкамі
Палезе на ражон,

Не сып ты
На свае сумненні солі —
Цябе!
Толькі цябе кахае ён.

*

Так і зрабіла
Жонка нераўніўца,
Калі ўляглася
З мужыком сваім —
Нібы пачаў ёй
Палюбоўнік сніцца,
Уголас развяла
Гаворку з ім.

— О любы!
Абдымай мяне бясконца!
Бяры мяне!
Палонь мяне!
Палонь!
Бо муж мой схаладзеў
Па сваёй жонцы,
А ты такі гарачы,
Як агонь!

З табой —
Я адчуваю асалоду,
З табой —
Імгненна ночка прабяжыць.
А муж мой,
Як трухлявая калода,
Храпе пад бокам толькі
І ляжыць…

Яна такое
Яшчэ доўга «сніла»,
І чулася:
«Каханы! Ах і ох!»
Ды ўсё-такі,
Відаць, перасаліла,
Бо муж зрэагаваў,
Як толькі мог…

*

Яна назаўтра,
Радасна, з падскокам,
Да той сяброўкі,
А сяброўка ў гвалт:
— Які ў цябе «ліхтар»
Гарыць пад вокам!
Вой! Пад другім —
Агромністы фінгал.

Пачулася:
— О ісціна святая!
Дык гэта ж —
Майго шчасця сінякі!
Я высветліла —
Муж мяне кахае!
Які раўнівец любы мой!
Які!

Яны цяпер
У «ліхтарах» абедзве,
Ад ласкі
Іх кахаючых мужоў.
Хоць слёзы свае
Стрымліваюць ледзьве,

Ды «ісціна»,
Яна відаць без слоў.

*

Ў жыцці не кожны
Свайму лёсу рады,
А вось сяброўкі
Згодныя з усім.
Ды ад суседзяў
Новыя парады
Падлілі дзёгцю
Ў мёд сямейны ім.

Адна суседка —
Здзіўлена,
Здалёку,
Усклікнула,
Як сёння модна — Ваў!
А што гэта ў цябе?
Сіняк пад вокам!
— Дык гэта ж муж
Мяне прыраўнаваў.

Ён падазронасць
Так на мне зганяе,
Даказвае й каханне
Так на мне —
Зноў здзіўлена
Суседка ўдакладняе:
— Падставы ёсць для рэўнасці
Ці не?

Калі даеш блудлівасці свабоду
І бегаеш

«Налева» ўціхара,
Насі сіняк свой,
Як узнагароду,
Якую заслужыла —
І — ура!

Сяброўка запярэчыла:
— Ды што вы!
Якое там «налева»!
Гэта ж грэх!
Пра мой абман
Не можа быць і мовы!
І тут суседка
Не стрымала смех.

— Ха-ха!
Дурная!
Ні за што пакуты!
Гульнуць ты маеш права
На ўсе сто.
Вазьмі і рожкі
«Намалюй» яму ты —
Дык будзе хоць
Сіняк насіць за што!

Другой сяброўцы,
Гэткая ж суседка,
Шмат гаманіла,
Як птушыны гай.
Што там яна казала?
Бог быў сведка,
Дарадцаў процьма —
Вушы падстаўляй.

*

О гэты дзёгаць
Языкоў бяздумных,
Ён у паветры водарным,
Як чад.
Ён лад сямейны ціхі,
Робіць тлумным
Ці ператворыць лад сям'і
Ў разлад.

Сямейнага жыцця
Характар тонкі,
То тужыць,
То паслабіць дзён гужы.
У бок які
Цяпер крутнуцца жонкі?
Ці знойдуць ісціну
Свайго жыцця мужы?

*2018*

# Паміраючыя хаты

Як цяжка паміраюць хаты,
Часцей бывае — без пары.
Дыягназ непазбежны кляты —
Пайшлі з жыцця гаспадары.

Тады — у хаце доляй цёмнай
Жыве бязлюддзе з году ў год.
І хата робіцца «бяздомнай»,
Як той сабака альбо кот.

*

Даволі хлопцу і паненцы
Кахацца ў покрыве начэй.
Пара вязаць у зруб бярвенцы
І віць гняздо сваё хутчэй.

Жыць ад жыцця ці ж можна збоку
Каханню?
Не!
І прэч бакі!
Яно заўжды навідавоку
Ва ўсе часы, ва ўсе вякі.

Каханыя дарогай торнай
Ідуць, калі ўсе бачаць сны.
І думаюць, што ноччу зорнай,
З каханнем на зямлі адны,
Й першапраходцы тут яны.

Дарогай гэтай — рукі ў рукі,
Ішлі бацькі,
Ішлі дзяды.
І вось праз час за імі ўнукі
Свае пракладваюць сляды.

Яна — каханая, ён — любы,
Ўсяму — каханне галава.
І маладых спрадвек да шлюбу,
Нясуць два крылы,
Сэрцы два.

Саюз сардэц —
Пасаг багаты,
Ў адно з'ядналіся два «я».
Ды без сваёй уласнай хаты,
Сям'я — бяздомная сям'я.

*

Антось прыкладваў намаганні,
Свой вугал збудаваць хутчэй,
Каб лёс палепшыць жонцы Ганне,
Каб зажыла яна, як пані,
Каб хату поўніў смех дзяцей.

Калі здаровы дух у целе,
Прыносіць праца радасць, плён.
Усё збылося —
Й наваселле,
За ім — і дзеці наўздагон.

І поўніў хату рух жыццёвы,
Будзённы і святочны рух,
Ды рух спыніўся шматгадовы,
Ачаг жыцця датлеў, патух.

Жыццё, здаецца, доўгім будзе,
На справе так яно і ёсць.
Ды з жалем адзначаюць людзі,
Што кожны з нас — часовы госць.

Што вось ты, малады, у сіле,
Міргнуў — і ў старасці сядзіш,
Яшчэ міргнуў — і на магіле,
Ці сціплы помнічак, ці крыж.

Так і Антось са сваёй Ганнай:
Год — успамін,
Год — успамін.
Мінула маладосць, каханне,
Жыццё прайшло, як дзень адзін.

Такое — непазбежна з намі…
І іх з жыцця паклікаў Бог.
Уперад вынеслі нагамі,
У вечны вырай праз парог.

А дзеці?
Іх цікавіў мала
Вясковы безвыгодны кут.
І ў хаце ні душы не стала,
І сум усталяваўся тут.

*

Сіроцкі хата выглядае,
Няўтульнай робіцца праз час.
Душу яна таксама мае
І памяць, як і кожны з нас.

Гарбее дах не без прычыны,
Астылы комін хіліць бок.
Вярэдзяць хату успаміны,
Здае яна — відаць здалёк.

Дык гэта знешне, а ў пакоях
І днямі змрок абжыў вуглы.
Ад азнямелага спакою
Застылі лавы і сталы.

З салодкім сумам помніць хата
Гады мінулае пары,
Як рыхтаваліся да святаў
Руплівыя гаспадары.

Як, гаспадарлівыя, ў сіле,
Задумкі дзейснілі праз пот —
І вокны, і падлогу мылі,
І печ падбельвалі штогод.

Як спеў душы ляцеў да столі,
Праз вокны быў чуваць здалёк,
Калі падпітыя застоллі
Свой родны славілі куток.

Хвалілі хату ў захапленні
Суседзі, госці ці радня —
— Ну й цуд!
Адно ў адно бярвенні!
Якая ўтульнасць!
Цеплыня!

Дзівіліся — не надзівіцца,
Узносілі аж да нябёс.
І хата шчодрыла жывіцай,
Нібы жывы, сапраўдны лес.

І хата ( што утойваць гэта?)
Успамінае і не раз,

Як люба зачыналі дзетак
Гаспадары ў свой лепшы час.

Як мілаваліся, бывала,
Яны ў паўночнае цішы.
І вось мінула ўсё. Не стала
Ні іх.
Нікога.
Ні душы.

Пакоі ў гіблым заняпадзе,
Вакол бязлюддзя гарчыня…
А на куце — Ісус ў акладзе,
З ім — вочы ў вочы цішыня.

*

І што больш моцнае у свеце.
Чым повязь, што здавён-здаля,
Адвечная — бацькі і дзеці,
Чым повязь: чалавек-зямля?

Калісьці…
О калісьці гэта!
Парадкі іншыя былі —
Бацькі душой тулілі дзетак
Да роднай хаты,
Да зямлі.

Ніхто даўней свой кут не кіне,
Каб недзе пачынаць з нуля,
Бо хата — для людзей святыня,
Святыня й родная зямля.

Бацькі, дзяды, жыцця аповесць
Пісалі працай на зямлі.

І ўнукі адчувалі повязь
З сям'ёй, з зямлёю, дзе жылі.

Жыць сёння у бацькоўскай хаце
Не прагнуць дзеці — не сакрэт.
У іх камп'ютар замест маці,
І родны бацька — інтэрнэт.

Й няблізкі свет — бліжэй, чым хата,
Жыве хоць калыханка тут.
Але ці ж моладзь вінавата,
Што не трымае родны кут?

Ці шмат магчымасцяў вясковых
У вёсны ў моладзі было?
Занадта ў рознае умовах
Час бавяць горад і сяло.

Спакусаў розных шматгалоссе
Ліе у вушы інтэрнэт.
Хто з роднаю зямлёй не зросся,
З яе імчаць у белы свет.

Вось так і паміраюць хаты —
У кожнай вёсцы ёсць яны.
Наш час на гэты боль багаты…
І будні сняць свае і святы
Святыя сведкі даўніны.

*2018*

## Апошні каласок

Дзед сядзеў разважаў:
            я амаль што дажаў сваё поле,
Поле лёсу свайго,
            даўжынёй, шырынёй у жыццё,
На якім арытміяй падзей
            прарасла мая доля,
Ўсё я бачыў на ім —
            каласы і бызьнёг, і асцё…

---

Хоць прыемна яму
            бачыць поле прыбраным і зжатым,
Азірнуцца няпроста
            без лёгкага суму туды,
Дзе на полі жыцця,
            ён у сіле нястомнай —
Араты,
Сейбіт будучыні,
Сейбіт мэтаў і спраў —
Малады.

Азірнуцца няпроста…
І ўсё ж, без агляду былога,
Немагчыма было б
            без памылак наперад ісці.
Недарэмна ж сцвярджаюць,
            што мала спадзеву на Бога,
Калі сам не руплівы —
            пусці-паванюся ў жыцці.

А ў далёкім былым —
            ўсё было, край праблем непачаты,
І салодка,
І горка,

І весела,
Й сумна было.
Так спрадвеку вядзецца —
            жыццё — не адны толькі святы,
І начам саступае, што ні раз,
            нават сонца святло.

*

А ў вайну назаўсёды
            ледзь не знікла святло пад няволяй,
І стагнала зямля
            у жахлівыя тыя часы,
І счарнела ад гора
            Радзімы і ўласнае поле,
І знішчаліся лёсы,
            нібыта ў агні каласы.

Дзед, не толькі вайну,
            а й сябе на вайне той успомніў,
Як на ворага — грудзі у грудзі хадзіў,
            лік згубіўшы баям,
Як паранены быў,
            і ў палоне ужо апрытомнеў,
Як пасля перамогі вярнуўся
            у свой родны бедлам.

Тут для ўладаў ён стаў
            і чужы, й нежаданы,
Стаў ён пасынкам між,
            як і сам, гераічных сыноў,
Быў асуджаны ён і,
            як здраднік Радзімы, сасланы,
Хаця поле Радзімы
            прыняло і ягоную кроў.

А вярнуўшыся зноў,
жыў сумленна, ды з плямай ў анкеце,
Хтосьці верыў яму,
хтосьці хмыкаў услед спадцішка.
Ганарыцца працягвалі ім
толькі жонка і дзеці,
Мацавалі нязломленасць
Франтавіка.

*

Уляглі́ся нарэшце ў той час
рэпрэсіўныя хвалі.
Дзед успомніў,
як горкая радасць душу апякла —
Апраўдалі яго,
Рэабілітавалі,
Хоць за ім не было
Ні злачынства,
Ні здрады,
Ні зла.

Атрымаў ад дзяржавы
Ў бочку дзёгцю
сваю лыжку мёду,
Справядліва,
Хаця са спазненнем, на жаль.
Адшукалі ў архівах затым
і яго ўзнагароды —
«Ордэн Славы» спачатку,
А з ім — «За адвагу» медаль…

Вось, здавалася б, цуд,
можна жыць
бесклапотна штодзённа,

Але радасць яго
заручоная з болем усё ж.
Хтось віншуе яго,
нехта зыркае ўслед падазрона,
Падазронасць, яна
раніць сэрца балюча, як нож.

Дзед упэўнены быў,
што з абранай дарогі не зверне —
І нястомна, і мужна,
ён вёў з непатрэбшчынай бой.
Ён на полі жыцця
сеяў вечнага, добрага зерне,
Ён жыццём даказаў,
што ён чысты прад Богам,
людзьмі і сабой.

*

Дзед усё разумеў,
што яго вельмі хутка не стане,
І таму ён хацеў
поле сжатае пасля сябе
Для нашчадкаў пакінуць
у найлепшым, дагледжаным стане,
Каб яно й праз гады
і другім несла плён пры сяўбе.

Давялося не мала
на ім карчаваць непатрэбы,
Кожнай справай сваёю
хацеў дасягнуць аднаго —
Каб для год ураджайных
душы жыватворная глеба

Жыццяўздыму спрыяла
і рухала ўперад яго.

Сэрца дзеда адчула
прыцішаны звон памінальны,
Ён наперад зрабіў
свой апошні няўпэўнены крок,
Ён па маці-зямлі
ледзь адолеў свой крок развітальны,
Быццам з поля жыцця
свой апошні падняў каласок.

*2018*

## Марыя

*Народнай артыстцы Беларусі*
*Марыі Захарэвіч*
*прысвячаю*

Дзве коскі,
Тоненькая шыйка,
Сама, як лёгкі матылёк —
Неўтаймаваная Марыйка
Чуваць была й відаць здалёк.

То неба пазірала з вочак,
То бліскаў сонечны прамень.
І не сціхала, як званочак,
Марыйка кожны Божы дзень.

Яна на лузе,
Паміж красак,
Была, як кветачка, сама.
Напэўна, й на старонках казак
Такой разумнічкі няма.

То шчабятала, як стрынатка,
Гукала ветру:
— Дагані!
Душою шчыраю дзіцятка
Ў жыццё пускала карані.

Бог даў для гуляў час дзіцяці,
І ўсё ж Марыйка, як магла,
Ва ўсім дапамагала маці,
Старанна прыбірала ў хаце —
Рупліўкай-пчолкаю была.

Яна употай размаўляла
З вадой, раслінаю, зямлёй.
Дзіцячым сэрцам адчувала,
Што адгукаліся ўсе ёй.

Пад звонкім купала вясёлкі,
Пад блаславёнасцю нябёс,
Пачаўся з вёскі Навасёлкі
Марыйкі той далейшы лёс.

*

О ты, маленства залатое!
Марыйцы — пяць!
Як цуд гады!
І раптам чорнаю слатою
Закрыў вясёлку цень бяды.

І цішу крык жанчын валтузіў,
Як абвясцілі ўсім:
— Вайна!
І пачарнелі краскі ў лузе,
І да мінулага — сцяна.

А будучыня?..
Невядомасць…
І ноч — не неба ўжо ў вачах,
А у душы уся «маёмасць» —
Непрадказальнасць, боль і жах.

На жаль, сусветнае злачынства
Прадухіліць і Бог не змог.
Вось так Марыйкіна дзяцінства
Нявечыць стаў вайны малох.

Цяпер — і кожны ранак золкі,
І захлынаўся дзень ад хмар —
Спалілі немцы Навасёлкі,
На хатнішчах курыўся жар.

Зямля — у попеле і дыме,
Вось ён, бяды сапраўднай знак.
Вяскоўцы — і Марыйка з імі,
Ўсе ратаваліся, хто як.

Хто начаваў у лесе, ў полі,
А хто зямлянку рыў, як крот.
Ох і глынулі ж горкай долі
І жудасці ваенных год.

*

Адхлынула нарэшце ліха,
Мінуў час гора і выцця.
І людзі пачалі паціху
Душой вяртацца да жыцця.

І ачунялі на зямельцы,
Параненай, але жывой,
І рупіліся пагарэльцы,
Каб дах займець над галавой.

Мір атуляў і Машу-пчолку,
Хоць сны палохала вайна.
І ў верасні пайшла у школку,
Ужо падросшая яна.

У школцы — ўдумліва, старанна,
Быў кожны крок, як крыл узмах,
Хаця была адукавана
Жыццём сваім не па гадах.

